

# З вясною ў адным вагоне

*Люты, 1996*

Зіма. Ноч. Ціша і вусціш.

На закіданым снегам узгорку спіць каплічка.

Калі з галерэі нашага Мастацкага музея заходзіш у невялікую залу, дзе жывапісныя работы двух мастакоў, найбліжэйшых сяброў — Бялыніцкага-Бірулі і Жукоўскага, то спачатку звычайна заўважаеш заснежаную ў блакітным сне каплічку, і яна цябе доўга ад сябе не адпускае. Ты набліжаешся да яе, ужо адчуваючы цішыню ды чысціню зімовае ночы на ўзлеску, загадкавую блакітную таямніцу, іх над сабою ўладу, уладу настолькі моцную, што, яшчэ пра яе не думаючы, сам нібы ў глыбокім сне, як па глыбокім снезе, падымаешся на ўзгорак — гэтакае адчуванне. Хочаш да капліцкі? Ці праз яе — вышэй? А куды — вышэй? Да Пана Бога?

Пра гэта падумаеш пасля, калі адыдзеш ад пейзажа і будзеш спакойна разглядаць яго зводдаль.

Здзівішся: няшмат усяго — зімовы ўзгорак і на ім капліцка,— але адкуль такая ўлада іх над тваёй душою? Ад прасторы, незаплямленай свабоды, глыбознай цішыні ды чысціні, замглёна-бязмежнага блакіту ночы на зямлі і ў небе?

Тут — улада мастака. Ён ведае душу прыроды, кожнага ў ёй парастка і людскую душу, ведае, як звесці іх ва ўзаемнай радасці, не разбурыўшы гармоніі свету і сусвету: усе гарызанталі — узгорка, капліцкі, неба — прыўзняў у чысціні да Найвышэйшага і паказаў туды дарогу.

"Зімовы сон" — назваў Біруля свой пейзаж. Але яго блакітны сон стаўся нашай бяссонніцай, і мы называем яго блакітнай каплічкай.

І няма больш пытанняў? Ёсць. Яны, іншыя, таксама хвалююць: калі і дзе гэтая казка напісана, у якім стане душы мастака пісалася і хто сведка?

Вядомы год — 1912. Вітольд Каятанавіч пісаў у майстэрні мала. Паляўнічаму якое паляванне ў сценах дома? Пошук пейзажнага матыву, работа над ім былі для яго паляваннем на нечаканае святло, на тон, на цень, на цішыню і вусціш, на мімалётны настрой, на пераменлівасць святла і настрояў, на тое імклівае, імгненнае, што нечакана мяняе наваколле, прыроду і нечакана знікае. Выбліснула і знікла. Трэба паспець злавіць і ўтрымаць. Злавіў і каплічку ў блакітным зімовым сне.

Дык дзе ж яны — узгорак і каплічка?

Біруля пра гэта не сказаў, няма і сведак яго сустрэчы з жывым пейзажам. Але ёсць іншы ўспамін Вітольда Каятанавіча:

"Аднойчы зімою, з'ехаўшыся на калядную ёлку ў Гарусава, мы, сябры-мастакі, выйшлі на паляванне. Каб скараціць дарогу ад вёскі да лесу, пайшлі праз возера на высокі процілеглы бераг, дзе стаяла хата Аляксея Кузёмкіна. Была раніца. Галіны старых бяроз, белыя ад інею, дыяментамі зіхацелі пад сонцам. Багданаў-Бельскі спыніўся:

— Якое прыгожае месца! Я хацеў бы, каб ты пабудаваў тут дачу.

Ён дастаў з кішэні сваю візітоўку, заламаў ражок і падаў мне як першы візіцёр на маёй будучай дачы.

Пажаданне сябра я перадаў жонцы Вользе Іванаўне. Яна была ў захапленні, і неўзабаве мы з ёю адправіліся да Кузёмкіна купляць зямлю. Гэта было ў снежні 1912 года, а вясною 1914 года я з сям'ёю пераехаў на сваю новую дачу".

Вёска Гарусава і возера Удомля — Цвярская губерня. Туды на пачатку стагоддзя Біруля прыйшоў з сябрамі: Жукоўскім, Марававым, Багданавым-Бельскім і Сцяпанавым па слядах Левітана, свайго настаўніка і мастацкага куміра, і там застаўся на ўсё жыццё. Пакуль не пабудаваў дачу на беразе Удомлі, жыў па вёсках вакол

Удомлі, больш — у Гарусаве, у вялікім доме Аракчэевых. Пакояў было шмат, хапала і гаспадыням, тром сёстрам, і сябрам Бірулі. Звычайна збіраліся на пачатку зімы, палявалі і пісалі. На Каляды да іх прыязджалі сем'і — жонкі і дзеці. Ставілі ёлку. Было шмат музыкі, жартаў, спеваў, масак, падарункаў. На ёлку запрашалі сялянскіх дзяцей, суседзяў. У памешчыка Ушакова ў блізкай вёсцы Астраўно купілі і прывезлі ў гарусаўскі дом стары раяль з чырвонага дрэва, на якім ці даўно Кувшыннікава і Турчанінавы, Ганна Мікалаеўна і Люлю, яе дачка, якіх Левітан кахаў, ігралі для Ісака Ільіча любімага ім Чайкоўскага, калі той жыў у доме Ушакова. У Гарусаве на раялі ігралі Вольга Іванаўна і Алена Мікалаеўна, жонкі Бірулі і Маравава, выдатныя піяністкі. Багданаў-Бельскі і Мараваў ігралі на балалайках — вазілі іх з сабою разам з эцюднікамі і стрэльбамі. Усе спявалі. Было весела. Днём у любое надвор'е пісалі эцюды.

Пасля свят і зімовых паляванняў жонкі і дзеці ад'язджалі, хтосьці з мастакоў перабіраўся ў суседнія з Гарусавам вёскі, але Вітольд Каятанавіч у тыя гады адсюль не выязджаў. Хіба які клопат вёў у Маскву ды зманьваў з Гарусава след звера.

Вясною 1914 года Біруля перасяліўся ў збудаваную на Удомлі дачу. Дом будаваў вялікі, з адборнай сасны, якую, як добры гаспадар, нарыхтоўваў раней, чым у дрэва пойдзе сок, кожнае бервяно ў сцены выбіраў смаловае, духмянае — яно і сёння, праз дзевяноста гадоў, як новае. Спяшаўся пабудаваць дачу за адно лета і хоць ненадоўга пакінуць бераг Удомлі, сваю будоўлю, не мог.

Ну, а блакітная каплічка? Калі яна стаяла там, дзе той зімою жыў Біруля, то дзе, у якім месцы? У Гарусаве? Ці ў нейкай з суседніх вёсак — Сігаве, Каскове, Шамардзіно? А можа, гэта тая маленькая цэркаўка святога Міколы-Ўгодніка, якую на пачатку стагоддзя перавезлі ў вёску Стан, паставілі на ўскраіне? Гэта яна сваім звонам пазней разнесла па-над Удомляю жалобу, калі памёр Вітольд Каятанавіч.

Гадаць далей не будзем. Хіба мала таго, што ведаем, і што блакітная каплічка не прыдуманая мастаком, рэальная, з таго самага берага, дзе жыў і пісаў свае цудоўныя пейзажы Біруля?

Бірулю мы яшчэ мала ведаем.

І ці будзем калі-небудзь ведаць? Яго жыццё — жыццё перш за ўсё душы. Яго жывапіс — малітва душы. А ведаць не сваю душу да глыбіні, да донца — ці можна? Хоць гэта душа мастака, які заўсёды на споведзі.

Пленэр Бялыніцкага-Бірулі на яго радзіме — гэта што? Свята жывапісу, дні творчасці, крок у спасціжэнні асобы і таленту мастака альбо яшчэ адно казённае, пад звон фужэрна-кілішкавага шкла, мерапрыемства?

Ён паўстагоддзя вяртаецца да нас, сваіх землякоў, у Беларусь, вечна трапяткім сэрцам шукае нашы сэрцы, а мы — як сустракаем? Ці так, як цывілізаваным людзям трэба ў сваім доме сустракаць дзядоў, бацькоў, сыноў — на веча нацыянальнага адраджэння?

Яшчэ не прыбралі ў хаце-камуналцы, смецце з яе не выкінулі, каб прывітаць у ёй духоўнага пастыра? Але ўсё ж — пленэр!

Сябра Бірулі акадэмік Лабанаў, мастак і мастацтвазнаўца, аднойчы ўспомніў выстаўку і на ёй — невялічкі эцюд Вітольда Каятанавіча з нечаканай назвай: "Дзень прыбавіўся на адну хвіліну". Там, на выстаўцы, яму спачатку здалося, што эцюд для Бірулі звычайны, у срэбнай гаме, з нясмелым красавіцкім сонейкам. Але калі падышоў да яго другі і трэці раз, вока злавіла на даляглядзе адзін маленькі блік, і той адзіны блік змяніў уражанне ад эцюда: адкрыўся чароўны момант палявання — цягі слонкі. Адбылося неверагоднае: адным мазком мастак спыніў час на адной яму, творцу, падуладнай мяжы захаду сонца, той мімалётны стан прыроды, які ўзнік на момант, каб адразу і знікнуць, паспеў схапіць, і глядач у захапленні ўсклікнуў: "Так, дзень прыбавіўся на адну хвіліну!"

Той жа Лабанаў сказаў, што пейзажы Бірулі, поўныя таемнага жыцця прыроды, не кожны прачытае адразу і да канца, што дачытваць іх будуць нашчадкі.

Але ці не памыліўся акадэмік? На пачатку і ў сярэдзіне стагоддзя ён не ведаў, якая дэградацыя чакае пры-

роду ў канцы стагоддзя і што разам са збядненнем прыроды будуць бяднець духоўна тыя самыя нашчадкі. І ўжо яны, мабыць, не прачытаюць Бірулю на ўсю глыбіню, бо не будуць жыць у той прыродзе, у якой жыў ён, не будуць жыць у ёй так, як жыў ён, не будуць так, як ён, яе ведаць і адчуваць. Біруля ўвесь там — у той найтанчэйшай гармоніі прыгажосці.

Гартаю свой зялёны дарожны сшытак. Вось — абрэвіятура: АСА. Пад ёю — занатоўкі. Чытаю — успамінаю.

"Жнівень. Ноч. Бераг Удомлі.

Неба ўсыпана зоркамі. Падаюць і на ляту гаснуць.

Дагарае вогнішча.

Ляцяць качкі.

Біруля і я, дзяншчык пры генерале, ляжым, глядзім у неба. Чуем, як над намі пранеслася яшчэ адна.

Біруля кажа:

— Ляцяць з Удомлі на Кезадру карміцца. Нашы — ад нас.

А я пытаюся:

— Пойдзем адсюль да свету?

Ён:

— А навошта?

— Каб золакам быць на Кезадры, дзе нашы качкі.

— А мы ж з табою хацелі тут пісаць ранішні туман?

— І паляваць хацелі.

— Паляваць пейзажысту трэба, каб вока не прытуплялася, трымаць яго заўсёды на ўзводзе, каб усё ў прыродзе чуць і бачыць, як чуе і бачыць малады ганчак, але ж і туманок на пэндзаль просіцца? Ты чуеш над шамардзінскім плёсам качку? Кракае...

— Не чую. Далёка.

— Будзе ляцець над намі — зрэжаш?

— У гэтай цемені яе хіба ўбачыш?

— А ты чуць яе павінен. Страляць на слых. Чу!.. Ляціць...

Стрэл кахнуў нечакана. Я і не бачыў, як Біруля, галавы ад зямлі не адарваўшы, не цэлячыся, падняў свой вінчэстэр і стрэліў. Рэха пакацілася па-над возерам, а тут, дзе

мы ляжалі, у небе застаўся, павіс над намі шолах крыла, абмяклага пяра ў паветры. Бліжэй, бліжэй — бац...

— А гэта чуў? — спытаў Біруля. — Як развіднее, возьмеш качку пад ясакарам. Гэта падарунак маладому пейзажысту ад старога мастака.

Я маўчаў, быццам сам падстрэлены. Забіты напавал, не варушыўся. З камяком у горле. Ачмурэлы. А сэрца — чую: бух, бух, бух".

Прачытаў і чалавека ўспомніў: АСА — Анатоль Сцяпанавіч Аўчыннікаў, мастак, жыве на станцыі Троіца, як едзеш чыгункаю з Масквы на Удомлю. Троіца — тая самая Удомля.

Успомніў і раздражнёнае пытанне Левітана да Бірулі, у той час яшчэ маладога, — настаўніка да вучня: "Дзе ваш слых? Вось на эцюдах — тое, што я прывык заўсёды ў вас бачыць, там — ёсць слых, а на карціне ён у вас знік".

Левітан ці не першы заўважыў у Бірулю гэты унікальны дар прыроды і баяўся, каб ён яго не згубіў, не абясцэніў.

Вітольд Каятанавіч свой рэдкі дар не згубіў. У яго была любімая фраза: "Слухаць цішыню". Умеў цішыню і слухаць, і чуць. Яна для яго была ў гуках. Яна была музыкай, што ператваралася ў музыку пейзажаў.

Цішыню Біруля пісаў не толькі фарбамі, пэндзлем на палатне, але і асадкаю на паперы. Яна і ў апавяданні "На лодцы з восцю", якое, на жаль, заляжалася ў архівах.

"Аксамітна-чорная ноч восені. Цішыня. Падмарожвае. Сумна шапоча блякла-жаўтлявы чарот. Лодка рухаецца ціха. Васіль стаіць у карме з шастом. На носе лодкі жароўня, каза, з насечанымі хваёвымі каранямі — яны, сухія, гараць ярка, асвятляючы постаць Васіля і па баках лодкі бераг, чарот, дно. У вадзе на водмелі ўсё відаць, заўважаеш кожную рыбіну. Іншая стаіць, нібы спіць, іншая варушыць плаўнікамі — яе насаджваеш на восць. Спалохана, з кракакннем, дзе-нідзе цяжка ўзлятаюць качкі. На вадзе, падаючы з казы, вішчаць і адразу гаснуць вугольчыкі, пакідаючы дымок. Рухаемся павольна.

— Ваабшчэ, трэба плысці там, дзе мелка і травяна, там больш рыбы, — прамаўляе Васіль.

Я адказваю тым самым з усмешкаю:

— Ваабшчэ, дзе больш рыбы, туды і трэба плысці.

Рыбы сапраўды ўсё болей. У карме лодкі яна блішчыць чырванню, як медзь, асветленая агнём з казы.

— Паедзем па бялянцы. Там ваабшчэ шмат ляшчоў.

Рухаемся па бялянцы. Сапраўды трапляюцца лешчыкі. Але няма ўдачы — то зрываюцца з восці, то не падпускаюць блізка.

На званарні прачнуўся і грымнуў у звон царкоўны вартаўнік. Гул адарваўся ад звона і панёсся па вадзе ў лес за возерам. Там адгукнуўся і патануў у начной цемры".

Цішыню Біруля чуў у гуку, у яго кантэксце, а выказаць яе было справай тэхнікі — у фарбах ці словах.

Ён, як лясун, паляўнічы, ведаў, што поўнае цішыні няма, што яна поўная ў вуху глухара, калі ён чуе толькі сябе, што цішыня — падтэкст гуку і яму адэкватная, а гук у прыродзе жыве заўсёды, і мастаку яго трэба чуць, каб чуць цішыню.

Біруля чуў і гук, і цішыню. Не так, як усе. Як мог чуць адзін Біруля.

Зялёны сшытачак гартаю далей. Што яшчэ ў ім засталося, чаго я не вытрас, не паказаў і не расказаў?

Сальеры? І тут ты? Сальеры — гэта АСА:

— Я з маленства любіў фарбы, каляровыя алоўкі, пэндзлі, чыстую і каляровую паперу. Любіў прыроду і дужа хацеў навучыцца яе прыгожа маляваць. Таму, калі дазнаўся, што на Удомлі жыве вядомы мастак Біруля, што ён адкрыў на сваёй дачы школу для сялянскіх дзяцей, вучыць жывапісаць і платы за навучанне не бярэ, яшчэ і накорміць, бывае, я пайшоў да яго. Прыйшоў — там і застаўся.

Біруля ўзяў Анатоля Сцяпанавіча — АСА — сабе ў вучні. Ён хацеў зрабіць з яго жывапісца. І АСА хацеў стаць жывапісцам. Якім? Ды падобным на Бірулю. Хацеў пісаць, як настаўнік. З ім жыў, паляваў, пераймаў

яго звычкі, тэхніку пісьма, завёў сабаку, набыў стрэльбу, назіраў, як гэта рабіў настаўнік, настроі прыроды ў розныя поры года, ва ўсякае надвор'е. І што з гэтага атрымалася? Атрымаўся Сальеры. Так-так, АСА — Сальеры.

Я ў яго спытаў:

— А вы любілі Бірулю, калі былі з ім побач?

Ён адказаў:

— Як быў малады, быў да яго прывязаны, што сабака да гаспадара. Цягаў за ім яго паляўнічыя трафеі, мальберты, фарбы. Ездзіў у Маскву па прадукты. Атрымліваў у Акадэміі яго грошы. Ён мне давяраў, і я апраўдваў яго давер.

— Давяраў. А ці любіў? Як настаўнік вучня?

— Ну, так. Не быў я ў крыўдзе. У сорак восьмым, памятаю, як Люба, яго дачка, патанула ў возеры, як яе пахавалі, праз колькі месяцаў, увосень, быў я ў яго ў Маскве, у доме на Варатнікоўскім завулку. Адтуль ехаў дадому — ён мяне праводзіў на цягнік. Восень была позняя, быў галалёд. Я яму казаў, каб сядзеў дома, што сам знайду дарогу на цягнік. І цёмна ўжо было. А ён дастаў чацвярцінку, наліў мне і сабе, выпілі перад маёй дарогай. Ён тады шмат не піў, ведаў сваю меру. Мяне правёў, пасадзіў у вагон і з вакзала пайшоў у майстэрню да сваіх карцін. Дарогаю на лёдзе пакаўзнуўся, моцна выцяўся. Кровазліццё ў мозг, інсульт, як цяпер кажуць. І параліч.

— Вы ў той час у яго бывалі?

— Блізкіх сяброў у яго тады ўжо не было — паадыходзілі на той свет Мараваў, Жукоўскі, Багданаў-Бельскі, Сцяпанаў. Адзін ён застаўся з дружнай чарады. Былі маладзейшыя. Быў і я. Хоць тады ўжо да яго астыў. Я ўжо яго не любіў.

— А што паміж вамі адбылося?

— Ён ведаў таямніцы, сакрэты свайго жывапісу і мне, блізкаму вучню, іх не адкрыў.

— Якія таямніцы? Якія сакрэты?

— Іншых мастакоў, іх жывапіс, я разумеў больш, але вучыцца пісаць хацеў у яго, хацеў пісаць, як ён. І ён мне не перадаў сваю тэхніку пісьма. Панёс на той свет з сабою. Бывала, па азёрах суткамі ходзім, з сіл выб'емся, звалімся, да дому не дайшоўшы, вогнішча распалім, заначуем на беразе возера ці ў лесе. Ён спіць і ўсё чуе. Я прач-

нуся: сядзіць каля агню, у ноч глядзіць, слухае, назірае, думае. А што думае, што слухае? Дзе і як даўганосік ляціць, хоркае, драч горла дзярэ. Жаб любіў слухаць. Вогнішча пагасне, цёмна навокал, а ён сядзіць, як сядзеў, убачыць, што і я не сплю, спытае: "Ты чуеш? Што чуеш? Чым чуеш?" Чым — гэта са здзекам з мае глухаты. А я глухім не быў, маладым быў, паляваў, ведаў і пра Левітана, як ён у маладога Бірулі пытаўся: "Дзе ваш слых?" Як развіднее, ён — да эцюдніка, а я з ім побач. Туман, качкі ляцяць. Ён кажа: "Ты, Толя, пастраляй, а я папішу". Каб я ад яго адышоў. А я ад яго не хачу адыходзіць, не хачу страляць, калі ён піша, хачу таксама пісаць. Пішу — не тое. У яго на палатне раніца срабрыцца, зіхаціць у першых сонечных промнях, кожная расінка прасвечвае, святло трымае, туман пакладзе — зыбаецца, плыве, а ў мяне — малако пракіслае стаіць, нібы ў гаршку халодным. Ён пакладзе фарбу зялёную — і тая срабрыцца, а ў мяне — альбо зялёная, альбо гразь. Перспектыву дасць — усімі адценнямі зіхаціць жывы перламутр. Як гэта атрымліваецца? Фарбы — адны? Гэтак ніхто не пісаў. Значыць, сакрэты ведаў? Былі славутыя пейзажысты, былі Паленаў, Левітан, Шышкін, але ўсе — іншыя, так, як Біруля, чорт, не пісаў ніхто.

— Вы Бірулю неўзлюбілі за тое, што не змаглі разгадаць яго тон, гук, цішыню?

— Ён сам ведаў, якая гэта пакута шукаць таямніцу любімага майстра, сам, пакутуючы, шукаў яе ў Левітана. Ён — знайшоў?

— Не ведаю.

— "Над вечным спакоем" Левітана яго вымучвала. Кампазіцыя, прастора, перспектыва, малюнак. На тым месцы, дзе Левітан пісаў карціну, Біруля паставіў дачу, каб там жыць і глядзець усё жыццё на неба настаўніка, перажыць яго настроі, а напісаць так не змог. "Час цішыні. Возера Удомля" — тут быў блізкі да Левітана. І ўсё роўна не тое. Шукаў загадку настаўніка, а знайшоў сваю таямніцу. Дык жа адкрый яе вучню, каб ён не пакутаваў, як сам. Не адкрыўся. Я па начах плакаў. Можа, і раўнаваў. Да прыроды, якую люблю таксама. Пачаліся моцныя галаўныя болі. Я злёг, апынуўся ў бальніцы. Біўся галавою аб белую сцяну. Якая галава вытрымае? Аб яго

срэбра разбіўся. І тады мне ўсё ў ім зрабілася прыкрым. І яго дом, і яго гасціннасць, і любімая ім Люба, і яго даб-рата, з якою грашыма смеціў, і яго коні, сабакі. Усё мяне адвярнула. Зайшоў, памятаю, у канюшню, каб Арла, Бірулевага каня, вывесці, запрэгчы, гляджу на яго, на звера, і рукі не падымаюцца, не бяру, не вяду, увесь калачуся, злосны, а конь маю злосць чуе, ад мяне адступае, як ад сваёй смерці, і тут я яго кулаком у храпу, з усёй сілы. Конь нібы ашалеў, захроп, а мне стала лягчэй. Зачыніў вароты ды пайшоў на возера, як забыў, што Біруля мяне з канём чакае, ехаць сабраўся.

— Скупы ён не быў.

— О-го, шчодры быў! На паляванні, бывала, мужыкі ідуць у загон, а ён ім гарэлачку выстаўляе. Спектаклі ў доме Ушакова — гулянкі. А калядныя ёлкі ў Гарусаве! Сябры ў “Чайцы” жылі заўсёды. Музыка, рамансы, цыганы — любіў жыццё. На тройку — і ў Валачок. Гані, мужык! Коней запарыць, фурман — на калені, у слёзы: “Шкада, барын, коней”. А Біруля фурману — кашэль з грашыма: “Не плач, купі новых”. Усіх адорыць, аддасць апошняе. Любіў і гуляць, і працаваць. Сам — конь, хоць па балоце, хоць па лесе, у полі. Са стрэльбаю, з эцюднікам. Пісаў шмат. Карціны ў яго куплялі. Плацілі ў тыя часы добра...

АСА калаціўся. Рукі на каленях, вусны, галава — усё калацілася. Я захваляваўся:

— Супакойцеся.

Ён сядзеў побач са мною на лаўцы каля плота, хапаючыся рукамі то за галаву, то за калені, і ўсё расказваў, успамінаючы былое, не мог спыніцца, не мог ужо не думаць, не гаварыць пра Бірулю, быццам у ім усярэдзіне быў заведзены нейкі механізм, які проста так, сам па сабе, спыніцца не мог. Ува мне жылі ў тыя хвіліны два пачуцці, якія ўсё мацнелі. Першае — каб ён загаварыў пра штосьці іншае, не думаў пра Бірулю і супакоіўся; другое — каб гаварыў далей, выкладваў з сябе ўсё, што ведаў і што мог сказаць пра Бірулю, пра сябе побач з ім, бо я адчуваў, што ў гэтым стане ён казаў шчыра, змяніць не мог. Я адчуваў, што калі ён не скажа мне ўсё, што

хацеў сказаць, цяпер, то ўжо ніколі не скажа, і ад каго-небудзь іншага тое, што мог сказаць ён, я не пачую. І я маўчаў.

Ён гаварыў:

— Бывае, што сніцца “Чайка”. Сняцца Біруля, Люба, іх дом. Вось я забягаю ў пакой, а там пад столлю на люстры рой пчол, і пад ім на канапе ляжыць Люба, спіць. Што рабіць? Дзе Марыя Патапаўна, паварыха, дзе Фёдар Сцяпанавіч, які быў рабочым, дзе яго дзве дачкі, што прыглядалі за Любай? Няма нікога. Я ўскочыў на стол, скінуў з сябе пінжак і — на пчол, згарнуў і хутчэй у сад з пчоламі. А яны — на мяне. Я — у возера. Сніцца, як Любу з возера прывезлі. Жыў ва Удомлі доктар, яму Біруля падарыў дзве карціны і ружжо. Рыбакі Любу сеццю, як рыбіну, вылавілі, а ён яе прывёз на падводзе. Ляжала прыгожая, у сваім вавёрчыным футры. Як затанула? Апранула футра і пайшла ў белую купальню, якую ёй Біруля пабудаваў: на вадзе церам, з-пад белых калон — у ваду прыступачкі. Па белых прыступачках яна і апусцілася пад ваду ў футры. Была сярэдзіна лета. Чэрвень. У іх яшчэ жыў Лёшка Лістратаў, таксама ў Бірулі вучыўся. Мне кажа: “Бяжым адсюль, срэбра Бірулева не ў нашы рукі”. І збег у Керч. Таксама хацеў пісаць Бірулевым срэбрам па ўльтрамарынчыку ды кобальту.

АСА рагатаў на ўсю вуліцу.

Да нас падбег сусед, які жыў у доме насупраць, схапіў мастака за плечы, прыўзняў з лаўкі і павёў ад мяне, супакойваючы, за вароты. Рогат і там, на двары, доўга не аціхаў.

Сусед вярнуўся.

— Я вінаваты, — сказаў ён, — што вас не папярэдзіў, які гэта чалавек. Ён добры, але галава хворая. Яму нельга доўга думаць і гаварыць пра Бірулю.

— Во, неўзлюбіў!

— Як на Бога глядзеў, а потым зненавідзеў.

Ад зялёнага плота я паехаў далей, на Удомлю-возера, і калі ехаў дзе лесам, дзе полем, доўга чуў рогат чалавека. Той рогат быў усё ж рогатам Сальеры, які захварэў на галаву ад зайздрасці да боскага таленту.

Сэнс і прыгажосць мае слова свабоднае. Толькі тады слова — літаратура. Але дзе ты яго, свабоднае, знойдзеш, як не ў жыцці свабодным, вольным?

Пра гэта думаю, чытаючы Бірулю:

“Сетка напаўняецца даўганосікамі — цёплымі камячкамі ў іржавых пярынках. Мы спыняемся каля стога. Сабака спрабуе зашыцца ў сена. Кум Фёдар пачухаўся пад стогам і заснуў. Я гляджу на яго глыбакадумны твар і моўчкі разважаю: “Трэба яму, звыш таго, вусы абрэзаць”.

Кум храпе.

Спіць і сабака”.

Думаю: “Калі б я жыў гэтак, у прыродзе, то і мяне б, магчыма, знайшоў ліст якога-небудзь сучаснага Рэпіна?”

“Я так прывык асвяжацца душою перад Вашымі жывымі павевамі праўды, прастаты і свабоды”.

Шчаслівы Біруля. Я разумею цану ягонага “Малю Вас” — да Антаніны Шчокатавай:

“Мілая, найдабрэйшая Антаніна Мікалаеўна!
У Вас знаходзіцца ліст Рэпіна да мяне...”

О, як ён, бязбоязны, спалохаўся, што ліст Рэпіна можа згубіцца! І якая страта была б для ўсіх нас.

А там, у Рэпіна, усё пра свабоду. Там кожнае слова — ад свабоды: і праўда, і прастата...

Вось і кажу сам сабе: “Жыць трэба ў прыродзе, як жыў Біруля. Тады — і слова. Тады — і колер. Тады — і гук. Тады — і цішыня.

Тады ўсё разам — спавітае свабодай. А ўсё ж...”

Усе мы нараджаемся свабоднымі, а паміраем з мараю пра свабоду.

Цікава: ці абрэзаў Біруля вусы куму Фёдару?..

Свабода — не тое, што вакол нас, што ад кагосьці, а тое, што ў нас, у кожным з нас, у нашых душах, жывая ці мёртвая, і кожны з нас сам — яе творца альбо кат. Яе знайсці можна толькі ў сабе.

Ці не таму, усё гэта зразумеўшы маладым, Біруля так рана пайшоў у прыроду і ў ёй застаўся назаўсёды?

Ён, мудрэц, ведаў, дзе жыць вольнаму мастаку, які ў няволі не можа ні працаваць, ні дыхаць.

Вось ён — не толькі свабодным нарадзіўся, але свабодным жыў і свабодным памёр.

Але чаму я так сказаў: "Бірулю мы мала ведаем, Бірулю ўсяго мы ведаць не жадаем і ці будзем калі-небудзь ведаць?"

Несвабодныя людзі не могуць і не хочуць ведаць свабоднага.

Несвабодныя баяцца свабоднага.

Тады хто гэтыя **мы**, што не жадаюць ведаць, баяцца ведаць, і ці ўсе мы — гэта **мы**?

За восем гадоў вандровак па слядах Бірулі я сустрэў шмат людзей, якія яго шчыра любяць, чуюць, як сказаў адзін з іх, дыхам. Найбольш іх сустракаў у Беларусі, сярод люду простага, неказённага, у асяроддзі мастакоў, леснікоў, паляўнічых — людзей прыроды. Пейзажысты, якія жывуць у правінцыі, — яго духоўныя дзеці. Яны яго ведаюць пераважна па выпадковых рэпрадукцыях у старых ды новых часопісах, некаторым у рукі траплялі альбомы, яны хочуць бачыць яго пейзажы часцей, хочуць чытаць пра яго і яго, але мала каму на гэта шанцуе — няма ні кніжак, ні альбомаў. І пісаў наш духоўнік шмат, ні дня не пражываў без мазочка, толькі ў нас, на Беларусі, каля шасцісот яго жывапісных работ, сотні карцін ды эцюдаў па музеях, галерэях, прыватных зборах ад Архангельска да Тбілісі і Астрахані, ад Калінінграда да Уладзівастока. Пісаў і прозу, і вершы. А яго лісты да дачкі Любы, да сяброў — мастацтва таксама высокае і патрэбнае ў нашым духоўным жыцці. Невыпадкова яго найбліжэйшы сябра Станіслаў Жукоўскі аднойчы адгукнуўся з Варшавы: "Твой ліст — вялікі лірычны і рамантычны твор! Па глыбіні пачуццяў і назіральнасці ён вышэй за Тургенева. Я ўсім даю яго чытаць як узор глыбока змястоўнай душы".

Дык хто і што не пускае ўсяго Бірулю да ўсіх нас?

Ён сказаў:

"Не адбірайце ў чалавека радасць..."

Калі ў гэтых словах і наш папрок камусьці, то — каму? У дачыненні да радасці, якую нам дае Біруля, і смутку,

што гэтая радасць яшчэ няпоўная, — каму? Хто і што не пускае яго да нас і нас да яго?

Да Бірулі [redacted] выбраўся ў жніўні 1988 года. Тады — ненадоўга. У Магілёў, Бялынічы, Крынкі. А ў маі 1989 — далей і надоўга. Запрог сваю зялёную "Ніву", якую Міхась Стральцоў назваў "сваячкаю казлу і каню", укінуў у яе гумовыя боты, палатку, спальнік, лодку, ружжо, дыктафон, фотакамеру, тузін пляшак "Белавежскай", рыштунак на кожны дзень і, зрабіўшы выгляд, што аніякае катаракты ў мяне няма ні ў адным воку, пагнаў кентаўра на Бірулевы сцежкі-дарожкі. Праз два гады была ўжо не толькі напісаная, але і выдадзеная кніга пра Бірулю "Крыж на зямлі і поўня ў небе", яшчэ праз два па кнізе зняты мастацкі поўнаметражны фільм. Рэжысёр Валерый Басаў сказаў: "Прэм'еру фільма наладзім на тваёй радзіме ў Крычаве". Я падумаў: "Чаму б і не наладзіць? У Крычаве пражыў жыццё, там мая хата, родныя магілы, маці старэнькая, мае пачаткі ды працягі ўсіх, можна сказаць, сцяжын зямных і пачуццяў, мае маральныя падмуркі, там і кнігу, вярнуўшыся з падарожжа па Бірулевых сцежках, пісаў, там жывуць мае сябры маленства і юнацтва, ёсць мастакі, пейзажы пішуць, бывае, што і пад любімага ўсімі імі Бірулю, ёсць мастацкая школа для дзяцей, ды і добрая, з таленавітымі настаўнікамі-мастакамі, растуць у ёй будучыя жывапісцы, духоўныя людзі — ім і пакажам фільм пра Бірулю, кнігі пра яго прывязу, падару, прыедуць са мною і рэжысёр, і артысты, якія ў фільме здымаліся". Пазваніў загадчыку раённага аддзела культуры Міхееву — той згадзіўся. Я, праўда, не зразумеў — з радасцю і ўдзячнасцю ці без радасці, без удзячнасці? Праз два тыдні ён мне звоніць, каб сустрэчу перанесці на пазнейшы час — нявыкрутка. А праз месяц зноў ад яго званок: яшчэ раз трэба перанесці. І трэці раз — нявыкрутка. Кажу: "Вы час сустрэчы, каб вам быў зручны, самі прызначце і мне патэлефануйце". І вось ужо два гады мінула — маўчыць. Прапанаваў не тое, што трэба мясцовай культуры? Біруля тут не патрэбны? І кнігі, і фільм пра Бірулю, і рэжысёр, артысты, пісьменнік, мастакі — навошта яны тут? Па ўсіх кінаэкранах раёна круцяць заморскія баевікі,ролікі пра наркаманаў і сексуальных маньякаў.

Новы час — новыя палітыка, культура, выхаванне? І новыя фільмы, героі, ідэалы?

У Крычаве — пажар. Ноччу гарэў шматпавярховы дом, у якім жывуць рабочыя завода гумава-тэхнічных вырабаў. З вогнішча вынеслі мужчын, жанчын, дзяцей — мёртвых. Тут гэта мала каго здзіўляе і абурае: гарым з усіх бакоў у прамым і пераносным сэнсах — звыкліся. Тут больш здзіўляе тое, што ў горад завітаюць мастакі міжнароднага пленэру Бялыніцкага-Бірулі. Кажуць: "Навошта ён нам?"

Хто гэтак кажа? Ды і той самы, што з гармонікам у руках кіруе: "Сыпце "Рускага", дзеўкі-хлопцы!"

А дзеўкі-хлопцы загаварылі па-беларуску. Гармонік ад абурэння зумкнуў і заціх:

— Хто тут нацыяналіст?..

Вядзецца следства: чаму ўзнік пажар і хто вінаваты? А ён ад бруду, ад жыцця ў павальным п'янстве, крадзяжах, галечы, мардабоі, ад культурнага і моўнага абвалу, у якім расплыўся стылізаваны пад інтэграцыю ды рэфармацыю — пад іх імітацыю — унікальны велікарускі мат.

І ўжо тут, вядома, не да Бірулі і яго пленэру.

Тут раскашуе міхееўшчына — згуртаваная ў хлусні антыкультура.

І гэтакае можа быць толькі ў нас, з намі: пытанне неверагоднае і ганебнае — як вымаўляць прозвішча свайго класіка? Ну, так, не ведаем.

Памятаю, як першы раз я расказваў пра Бірулю па нацыянальным радыё. Ледзьве перадалі маё слова ў запісе, як зазваніў тэлефон: "Гаворыць навуковы супрацоўнік, спецыяліст па Бялыніцкім-Бірулю. Хачу выказаць вам свае заўвагі".— "Вельмі,— кажу,— цікава. Што-небудзь не тое сказаў?" — "Вы няправільна вымаўляеце прозвішча мастака. У слове "Бялыніцкі" націск трэба ставіць на першым "і", а ў слове "Біруля" — на "я". У вас жа: на "ы" і на "у" — гэта непісьменна. Гэтак адвалтузіла мяне вучоная дама, нібы строгая школьная настаўніца невукапершакласніка.

Але ў нас, беларускіх пісьменнікаў, выпрацавалася выдатная якасць характару — цярпліва слухаць, часам з

горкаю, часам з іранічнаю ўсмешкаю на вуснах, калі вучаць роднай мове, бо вучаць звычайна тыя, хто яе не чуў, не вывучаў, ■ калі вывучаў, то па расійскіх падручніках. Вось і я адразу ў хамут не тузануў, на настаўніцу не пакрыўдзіўся, цярпліва яе выслухаў і ветліва пацікавіўся, ці будуць яшчэ пытанні. Больш пытанняў не знайшлося. І тады я патлумачыў, што слова "Бялыніцкі" ад слова "Бялынічы", якое ў Беларусі ўсімі, пісьменнымі і непісьменнымі, вымаўляецца толькі з націскам на "ы", а слова "Біруля" — таксама наша, беларускае, па Беларусі, як і ў Бялыніцкім раёне, вельмі распаўсюджанае прозвішча, якое паўсюдна і ўсімі вымаўляецца з націскам на "у", што Біруля Вітольд Каятанавіч — беларус, як і мы, яго землякі, ён неаднойчы гэта сам казаў і пісаў у сваіх аўтабіяграфіях, свае імёны і прозвішчы атрымаў ад беларусаў, на беларускай глебе, і вымаўляць яго двайное прозвішча іначай, як вымаўляе сама Беларусь, — гэта не па навуцы, а па-маскоўску, што нам, беларусам, гэтак рабіць можна толькі ў выпадку поўнай страты нацыянальнай памяці, культуры і самапавагі, забыўшы, хто мы такія, якога роду-племені.

Была ў мяне і яшчэ адна смешная сітуацыя з гэтым прозвішчам. Прыехаў я першы раз на Друць, на тое месца, дзе былі Крынкі, пытаюся ў людзей, дзе тут стаяў дом будучага мастака, націскаючы ў слове Біруля на "я", па-маскоўску, думаючы, што і тут, як у маім Крычаве, людзі настолькі абруселі, што не зразумеюць, калі скажу па-беларуску. А там мясцовыя на мяне глядзяць, мяне слухаюць, плячыма паціскаюць ды маўчаць, як нямко. І вось я зноў спытаў, ужо каторы раз, ды раптам іначай, натуральна, націснуўшы не на "я", а на "у". Тады мужчына, пастух пры статку кароўскім, ляснуў па халяве бота пугаўём і засмяяўся — ад сялянскай сціпласці не з мяне, а як быццам з сябе: "Во, дурань, толькі цяпер да мяне дайшло. Дык Бірулеў дом стаяў якраз тут, дзе я пільную кароў". Мы з ім тады яшчэ і з Бялыніцкага пасмяяліся, з чужога нам націску на гэтым слове: няма ў нас слова "Бялыні́цкі", ёсць "Бялы́ніцкі", як і Бялы́нічы, а не Бялыні́чы.

Вось я і хвалююся: як нашы міністры ды спяцы ў жывапісе будуць называць Бірулю на пленэры — пакуль што лепяць па-маскоўску.

І ўсё гэта — міхееўшчына.
Гарым. З усіх бакоў гарым.

Хто ні загаворыць пра Бірулю, абавязкова прыкладзе мерачку Рэпіна. Мерка не малая, аўтарытэтная. Але нам разумець Бірулю трэба шырэй — як з'яву нацыянальнай культуры. І таму мы павінны ведаць не толькі творы мастака, але і ўсё яго жыццё, усе вытокі і рэчышча яго мастацкага светапогляду.

Што для гэтага трэба?

1. Сабраць і паказаць народу ўсё, што стварыў у жывапісе Біруля, хоць бы, напачатку, лепшае. Гэта вялікая праца. Ён пісаў шмат, раздаваў і прадаваў свае работы шчодра. Але больш-менш поўны каталог твораў жывапісу Бірулі нам патрэбны. І патрэбны найбольш поўны альбом рэпрадукцый карцін і эцюдаў, у які ўвайшлі б яго лепшыя работы у музеяў Масквы, Пецярбурга, Цверы, Самары, Тулы і шмат якіх іншых гарадоў Расіі і рэспублік былога СССР.

2. Сабраць, падрыхтаваць і выдаць кнігу эсэ, апавяданняў, вершаў, успамінаў, лістоў Бірулі, каб паўней уявіць яго творчую асобу. У гэтакую кнігу можна, ды і трэба, уключыць усё цікавае і каштоўнае, што пра яго сказалі сучаснікі, мастакі ды пісьменнікі, блізкія да яго людзі.

3. Наладзіць Бірулевы чытанні. Асабліва ў тыя дні, калі на яго радзіме, на Друці, адбываюцца мастацкія пленэры пейзажыстаў. Калі гэтакія чытанні не запалітызаваць, адкінуць усялякія агітпрапаўскія кандуіты і схемы, старыя і новыя, задачы і мэты чытанняў падначаліць самому Бірулю, яго творчасці, духоўнай спадчыне, то і культура наша палечыцца, і ўсе мы паразумнеем. Тэматыку чытанняў не трэба выдумляць, яе вызначыў сам мастак — сваім жыццём, сваёй творчасцю. Вось яна:

Біруля і матывы радзімы ў жыцці і творчасці;

Біруля і прырода. Паляванні з палітраю і ружжом;

Біруля і традыцыі беларускага рэалістычнага жывапісу;

Жывапіснае майстэрства Бірулі. Відавочнае і загадкавае;

Бірулева слова: апавяданні, вершы, эсэ, лісты;
Біруля з сябрамі і землякамі. Культура ўзаемаадносін;
Біруля і музыка. Біруля і тэатр;
Біруля і ўлада. Творчасць ды свабода;
і гэтак далей.

Мастак і ўлада — пытанне не новае. Кожны вялікі мастак, ды і невялікі таксама, не можа прайсці міма гэтага пытання ў краіне ідэалагічнага прэсінгу і адказ на яго дае сваім жыццём, сваёй творчасцю. Жыццё і творчасць Бірулі ў гэтых адносінах вельмі цікавыя і павучальныя.

Маршрут пленэру вызначаны міністэрствам культуры: Магілёў, Шклоў, Бабруйск, Крычаў, Мсціслаў. На ім не аказалася роднага краю Вітольда Каятанавіча — Бялынічаў, Крынак на Друці.

Я быў у міністэрстве, сядзеў у кабінеце адказнага чыноўніка, спецыяліста па жывапісе, трымаў паперу з яго рук, у якой быў акрэслены маршрут пленэру, глядзеў у паперу, ■ ён глядзеў на мяне. Я сказаў, стараючыся не выдаваць свайго абурэння, што пленэр, прысвечаны памяці Бялыніцкага-Бірулі, праводзіць нельга ў абыход яго родных Бялынічаў, Крынак, Друці.

Ён усё роўна як спахапіўся:

— Адбылася памылачка.

Я ж ведаю псіхалогію нашага чынавенства, і ў галаве ў мяне ўпарта засела пытанне: памылка ці задума? Адсутнасць Бялыніч была выклікана прысутнасцю на маршруце Шклова — у гэтым я не сумняваўся.

Каму ж у такім выпадку прысвячаўся мастацкі пленэр?

13 мая. Сяджу ў Крычаве на сваёй хаце, на вільчыку, слухаю, як з усіх бакоў дзяруць горла пеўні, і адгукаюся ім, пагрукваючы абушком па блясе, падганяючы яе да коміна, каб не залівае дождж. Пагрукаю ды слухаю, зноў пагрукаю — зноў слухаю. Самы гарласты — на Ганчароўцы, дзе мастацкая майстэрня Слаўкі Лазарава. Глядзець у той бок няма ахвоты.

Учора быў у Лазарава і вярнуўся ў прыкрым настроі.

У яго пад вокнамі стаялі, колькі сябе памятаю, старыя таўшчэзныя таполі, цэлая алея — з вуліцы да самых дзвярэй і вокан, за якімі, паглядаючы на таполі, я некалі пісаў свае першыя апавяданні. Цяпер у тым доме майстэрня мастака, а ў той час была раённая санітарная станцыя і ключы ад станцыі былі ў сястры майго школьнага сябра. Яна давярала мне ключы як братаваму сябру, калі на станцыі не было нікога — па святах, у выхадныя дні, па вечарах, і я заставаўся адзін з пішучай машынкай на стале. Перад сталом было акно, я адчыняў яго ў цёплыя летнія дні, таполі мне штосьці нашэптвалі, я пад іх шэпт пісаў, і атрымоўваліся апавяданні. Тых маіх шаптуноў цяпер звалілі. Калі я падышоў, іх рэзалі на калоды мужычок з бензапілой і трактарыст. Я спытаў, навошта звалілі старыя дрэвы, і мужычок з пілою адказаў, што ад іх цень, у якой не расце бульба. А ці такі ўжо цень ад старых дрэў, галлё якіх высока ў небе? Сто гадоў стаялі, бульба радзіла пад імі, а вось аб'явіўся новы гаспадар — зваліў. Ды так не па-людску — трохметровыя пні ад зямлі пакінуў, быццам абсечаныя рукі, у неба да Бога ўзнятыя. “Камлі,—кажа,— тоўстыя, не хапае пілы, каб да сарцавіны дастаць”.

Калі вяртаўся ад Слаўкі дадому,сцежкаю сышоў да ручая і спыніўся пад магутнай прыгожай ліпаю — глядзеў на яе з той самай прыкрасцю да глумлівых людзей: кара вакол ствала была знятая сякераю, і белы ствол блішчаў на сонцы. Доўгае жыццё ліпы некаму таксама не давала спакою, зрабілі так, каб засохла. Непадалёк стаяла старая жанчына, паглядала то на мяне, то на ліпу. Я падышоў, спытаў, хто і навошта ўчыніў здзек з дрэва. Яна не сказала — хто, сказала толькі, што наперадзе зіма, а дровы цяпер дарагія, шмат каму не па кішэні, вось людзі і шукаюць дармавіну, валакуць усё, што без нагляду, хай і чужое, а нічыё, як гэтая ліпа, шмат каму вочы мазоліла, рукі развязвала.

Перайшоў па масточку ручай — спыніўся зноў пад магутнай тапаляю, як двум ці тром малойцам абхапіць за рукі ўзяўшыся: стаяла таксама абчасаная сякерай наўкола — да смерці прыгавораная.

Размаўляючы са старою пад ліпай, звярнуў увагу на тое, што дрэва не толькі стаіць на беразе ручая, а як бы і на скрыжаванні вуліц, што на яе з усіх бакоў, знізу і зверху, ад поймы і з пагоркаў, з вышыняў узгорыстай Ганчароўкі глядзяць вокны дамоў, а ў вокнах — твары знаёмыя. З-за ручая на ліпу амаль усё жыццё глядзіць добры крычаўскі мастак і рыбак Пятро Сцебехаў, з процілеглага берага — вокны Лазарава. А яшчэ бліжэй да ліпы, крокаў дзесяць ад яе, два акны Толі Мядзведзева, былога майго аднакласніка, хоць з іншай школы, родная сястра якога Вера Сямёнаўна — удава Алеся Адамовіча, нашага мужнага пісьменніка і вучонага, яшчэ нядаўна ўзброіўшага маладую беларускую дэмакратыю ярасным воклічам: "Вандэя не пройдзе!" Адамовіч тут бываў і калі сядзеў ці стаяў каля дома цешчы, то гэтую ліпу не мог не бачыць, а калі бачыў, то напэўна захапляўся яе магутнай прыгажосцю. Як тут было не падумаць, што ліпа жыларасла на скрыжаванні пачуццяў і думак мастакоў слова і пэндзля, і ці не за гэта яна пакараная той самай Вандэяй, якая не толькі ў сталіцы, але і ў правінцыі, не толькі ў палітыцы, але і ў побыце, — за тое, што натхняла мастакоў на вольныя думкі і вольныя пачуцці?

Пытанні ў галовах не ўзнікаюць выпадкова. Гэтыя — таксама. Яны прарастаюць ■ рэальнасці, яе логікі.

Зрэшты, страхі збяднелага чалавека перад блізкай зімою, яе халадамі ды сваёй беднасцю, калі няма за што купіць нават тыя ж дровы, каб ля агню пагрэцца, таксама аргумент сур'ёзны для апраўдання маленькага злачынства.

Пад ліпаю, прыгаворанай да смерці, падумалася яшчэ і пра тое, што ў гэтыя дні, калі ў Крычаве, нібы эпідэмія, ідзе знішчэнне старых дрэў, у вобласці пачынаецца міжнародны пленэр песняра роднай прыроды Бялыніцкага-Бірулі, і што ўдзельнікі пленэру, пейзажысты, у адпаведнасці з яго маршрутам, павінны наведаць Крычаў, каб і тут праспяваць святлом і колерам сваіх карцін гімн прыродзе.

А можа, каб лішні раз не выкачацца ў хлусні, мастакам прапануюць пісаць пні ды тыя дрэвы, з якіх ужо садралі скуру?

З Бялынічаў патэлефанаваў Скугараў, загадчык аддзела культуры, запрасіў у раён на дні пленэру. Я адказаў, што хацеў бы прыехаць, ды не змагу, таму што арганізацыйны камітэт не запрасіў, а самазванцам быць нельга. Але неўзабаве з Бялынічаў патэлефанавалі яшчэ раз: на дні пленэру ў раёне да сябе ў госці запрашае галава раённай улады Агееў. І тады я абяцаў прыехаць.

Зноў палез на дах з кавалкам бляхі, сякеркаю, цвікамі і ўжо з думкаю, што выехаць з Крычава трэба заўтра як мага раней, першым цягнікомна Магілёў.

У дзевяць раніцы быў у Магілёве. У дзесяць у абласной філармоніі пачыналася прэс-канферэнцыя па пленэры. Там я мог сустрэцца з землякамі Бірулі, бялыніцкімі людзьмі, з якімі зручна было б ехаць у Бялынічы, і я вырашыў заглянуць на прэс-канферэнцыю. Калі падыходзіў да будынка, на высокім ганку стаяла кіраўніцтва вобласці і міністэрства культуры. Я павітаўся, правёў позіркам па ўсіх тварах і прыгадаў Рэпіна, яго карціну “Не чакалі”. У Рэпіна, праўда, не чакалі палітзняволенага, катаржніка, але гэтыя твары былі падобныя на тыя, разгублена-здзіўленыя, і я адразу зразумеў, што мае старонкі з дзённіка пра Бірулю і пленэр, надрукаваныя днямі ў “Звяздзе”, у нумарах за 4 і 7 мая, гэтыя людзі прачыталі і адрэагавалі на іх у поўнай згодзе са сваімі кіруючымі амбіцыямі.

Я быў задаволены, што прачыталі. І што рэакцыю гэтых чытачоў я прадбачыў. І што нягледзячы на гэта сказаў тое, што думаў, адчуваў і хацеў сказаць.

Пісьменнік не можа не прадбачыць рэакцыю чытача на сваё слова і асабліва чытача раўнівага.

Улада заўсёды раўнівая да літаратуры. Яна ніяк не можа змірыцца з тым, што літаратура не менш за яе ўплывае на розум і сэрца, на свядомасць і пачуцці чалавека.

Улада хоча быць усемагутнай. Але тут у яе на дарозе стаяць літаратура і мастацтва.

Зрэшты, свет ведае і цывілізаваную ўладу, якая з літаратурай і мастацтвам не варагуе.

Ці будзе калі-небудзь такая ў нас?

Мір ды лад паміж літаратураю і ўладаю ў нас быва-

юць на асобных астраўках, часовыя і заўсёды вядуць да страт у літаратуры, да яе здрады сваім ідэалам.

Прэс-канферэнцыя.

Выступаюць афіцыйныя арганізатары пленэру — кожны падкрэслівае прыярытэты славянскага саюза. А дзеля чаго? Каб адбіць ад пленэру неславян? Калі так, то навошта было сюды запрашаць тых жа французаў? Ці каб прыглушыць наш нацыянальны каларыт? Але хіба гэта не паставіць пленэр у апазіцыю да самога Бірулі, які заўсёды бачыў сваё мастацтва ў нацыянальным рэчышчы і ў сусветным кантэксце? Ён з вялікай цікавасцю вывучаў жывапіс Італіі, Іспаніі, Галандыі, любіў французскіх імпрэсіяністаў, а нацыянальныя традыцыі беларускага жывапісу абараняў як святыню — хоць і ў сваім страсным выступленні на першым пасляваенным з'ездзе мастакоў у Мінску. І першымі яго прызналі за мяжою не славяне, а Мюнхен і Барселона.

Да месца на прэс-канферэнцыі была заўвага Гаўрылы Вашчанкі, што жывапіс развіваецца ў нацыянальным рэчышчы і толькі нацыянальны ён мае сэнс і цікавасць у культурным свеце.

Бірулевы пачаткі — Друць, Крынкі — тыя, што тут, вада, зямля і неба, тутэйшыя лясы, палеткі, лугі, далягляды. Калі б яны былі іншыя, іншым быў бы Біруля. Іншым ён нам не патрэбны, мы любім яго такім, які ён ёсць, і таму радыя сустрэчы з ягоным берагам.

Як толькі сюды, на Друць каля Крынак, прыехалі, мастакі агледзеліся і разбрыліся з эцюднікамі па беразе рэчкі. Свой эцюднік і ў мяне — сшытак. Пайшоў берагам да лесу, спыніўся там, дзе старая пасвіла кароў, сеў на беразе пад вярбою, разуўся, ногі апусціў у ваду, а сшытак паклаў на калені. Кожны мастак хоча злавіць тут сваю залатую рыбіну, а я тут ужо рыбачыў і сем, і восем гадоў назад і яшчэ тады адчуў, што рыбка клюе. Вылавіў аповесць пра Бірулю, яго сяброў-мастакоў, яшчэ тых, даўно вядомых, і сённяшніх, якія яго і ў вочы не бачылі, але бачылі і любяць ягоны жывапіс. Ці магчыма такое? А чаму б і не? Свет умоўны, час умоўны, і мы ў свеце істоты ўмоўныя, ды і што такое нейкая сотня гадоў з календара вечнасці? І калі ўсе сумненні адкінуць — атрымаецца

пленэр. Той, што бываў у Бірулі на дачы, ці ўжо наш? А калі той і гэты разам, у адных берагах? Як сумясціць? Ці сумяшчальныя — яго і наш? Што з чым і хто з кім не сумяшчаюцца?

16 мая. Дзень ды яшчэ паўдня пражылі на Біруле-вым беразе і ўжо яго пакідаем — едзем у Асіповічы.

Для ўсіх нечаканасць: палова мастакоў жадае застацца ў Бялынічах і пісаць родныя мясціны Бірулі. Іх можна зразумець. Тут добра прынялі. Хочацца пісаць мясціны, якія падарылі свету вялікага мастака. Ды і раз'езды-пераезды — жыццё артыстаў, а не жывапісцаў. Жывапіс — мастацтва не гастрольнае.

Пасля вячэры завітаў да Бархаткова. Стары расхваляваны. Пачаў пісаць пейзаж, не закончыў — куды з ім, незакончаным, ехаць? У яго, старога рэаліста, праблема: дзве-тры гадзіны папрацаваў, пейзаж не закончыў, далей пісаць не мог — сплыло сонейка, неба іншае, пад ім зямля іншая, не тыя пайшлі святло і цені, ды і стаміўся — астыў. Восемдзесят два гады — мала не ўвесь шлях Бірулі. Што рабіць з пачатым пейзажам? Дапісваць заўтра на гэтым самым месцы? Можна, калі не зменіцца надвор'е, будуць такія, як сёння, святло і цені. Але ж заўтра павязуць у Асіповічы? Там усё будзе іншае, і толькі гэтая праблема застанецца: пачне пісаць што-небудзь новае і зноў не закончыць — павязуць на новае месца. Што за цыганшчыну прыдумалі? Што за вандроўкі? І што ў гэтых пераездах будзе з душою? У якім настроі будзе гойсаць па раёнах? А што скажа сэрца, калі знікне настрой? Маладым лягчэй, яны хутка працуюць, хутчэй прывыкаюць да любых умоў, ёсць сілы, каб за дзве гадзіны зрабіць эцюд, хоць і гэта не работа, калі не паспеюць адчуць матыў, а ўжо эцюд гатовы.

— Нікуды я не паеду,— кажа стары.— Буду сядзець тут і пісаць бераг Вітольда Каятанавіча.

З ім хочуць застацца Алейнік і Бараноўскі.

Захвалявалася адміністрацыя пленэру: зрываюцца планы, праграмы. У Асіповічах сталы накрытыя, пітво і закусь чакаюць гасцей, прамовы напісаныя, хлеб-соль на ручніках-вышыванкачках, прыгожыя дзяўчаты з песнямі ды скокамі выйдуць сустракаць, а дзе госці? Ды і як там, на новым

месцы, спісаць фінансавыя затраты на гасцей, калі яны не прыедуць? Бычка ды свінку зарэзалі, а дзе едакі?

І пачаліся ўгаворы, каб паездку не зрываць, ехаць усім.

Шмат каго ўгаварылі. Застаюцца ў Бялынічах самыя ўпартыя — Бархаткоў ды Алейнік. Паехаў далей і я. Мне ездзіць лягчэй: пісаць пакуль што не абавязкова, нават і ранавата, а думаць, як і што напісаць, назапашваць уражанні можна і на перакладных. Праўда, у мяне акрамя сшытка ёсць ужо і эцюднік, і фарбы, і кавалкі кардону. Нагледзеўшыся, як людзі ловяць сонейка на пэндзлі, прыйшла ахвота ўспомніць, як нешта такое рабіў у маладосці і я.

Прыемная навіна: пленэр папоўніўся сербам. У час вячэры ў Асіповічах ён сядзеў за сталом насупраць мяне, і я да яго прыглядаўся. Першае ўражанне: чалавек з цяжкой дарогі, стомлены, як які бежанец — гэтакіх я пабачыў на сваіх дарогах. Твар не першай, мякка кажучы, свежасці, стомленыя вочы, але ў твары ёсць загадка, якая абяцае прыемную нечаканасць, таямніца, якую хочацца адкрыць. Нас, тое, што мы кажам, добра разумее, па-беларуску гаворыць лепш за нашых тут беларусаў, ад якіх рэдка пачуеш сваю мову. І цудоўнае імя: Божадар. Першае застольнае слова адміністратара пленэру было да яго, новага чалавека, і зноў пра славянскі саюз. Як на гэта адрэагаваў Божадар? Ківаў галавою ды ўсміхаўся. Цяжка было зразумець, пагаджаўся ці моўчкі іранізаваў? Аўтару тоста, думаю, здавалася, што пагаджаўся з кожным яго словам, і я адчуў, што госць — чалавек не наіўны, на сваёй глыбіні, яшчэ ён слова скажа, можа, такое, якога ніхто не чакае.

Між тым Божадар нам тут вельмі патрэбны. Пленэр абвешчаны міжнародным, а ўсе замежныя госці, што былі ў першыя дні, калі не браць пад увагу суседзяў па былой камуналцы — масквічоў, украінца, літоўца, — пленэр пакінулі. Вось будзе з далёкага замежжа Божадар. Для падтрымкі міжнароднай шыльды.

Але чаму на чацвёрты дзень нас пакінуў і вярнуўся да сябе ў Польшчу Анджэй Скачылас? Чаму ў той самы

дзень ад нас паехалі мсье Мішэль Перэн і мсье Томас Танзілі? Ехалі яны сюды на месяц, а пабылі чатыры дні. Ад'езд Скачыласа можна было чакаць адразу, як адбылася прэс-канферэнцыя, на якой першы раз прагучалі заклікі мацаваць славянскі саюз і адзін з кіраўнікоў пленэру, палічыўшы, што агітацыя паўплывала на творчыя галовы, звярнуўся да яго, мастака і галоўнага рэдактара аўтарытэтнага ў Еўропе польскага часопіса "Мастацтва", каб пра пленэр яго часопіс апублікаваў добры (абавязкова, было сказана, добры!) артыкул, і калі ў адказ на гэта Скачылас заявіў, што такога артыкула ў часопісе не будзе, паміж палякам і нашымі чыноўнікамі прабегла чорная кошка. Апошнім адразу пачало штосьці не падабацца ў госцю. Усе, скажам, едуць працаваць на прыродзе, а ён застаецца ў гасцініцы. Пачалі гадаць: п'е ці не п'е, можа, спакушае маладзіц? А каму якая справа? Нашы адміністратары да гэтакага адказу на іх падазрэнні не прывучаныя, жыццё разумеюць як у арміі: рабі, як я, рабі, як усе, рабі, як загадаў пан генерал. Свабода творчасці і асобы? У нас яны на свой капыл, і да нашай армейскай паслухмянасці Скачылас аказаўся непрыстасаваны: спакаваў сваю сумку, папрасіў машыну, каб яго адвезлі на чыгуначны вакзал, і з пленэрам развітаўся. І ў той самы дзень, пакінуўшы сябрам-мастакам візітоўкі, поціскі рук ды прыемныя ўсмешкі, вярнуліся ў Парыж французы. Што ім не спадабалася ў нас? Але хіба яны, людзі безумоўна культурныя, а да таго яшчэ і сардэчныя, пра гэта скажуць?

Вось і гадай, чаму паехалі цікавыя мастакі? Я гэтага адразу не мог зразумець. Іншыя не маглі таксама. А сёння за вячэраю, пaглядаючы на Божадара, як ён рэагуе на занадта навязлівыя тосты, прачытаў на яго твары пытанне да ўсіх нас: мы, мастакі, прыехалі пісаць карціны ці маліцца славянскаму ідалу? Тут я і зразумеў, чаму так хутка з'ехалі неславяне Перэн і Танзілі і славянін Скачылас. Яны, людзі годныя і культурныя, не могуць не рэагаваць на хамства, у той час як мы, выхаваныя іначай, на любое хамства можам проста закрыць, і вельмі надоўга, вочы.

Сумленнаму мастаку патрэбныя свая маленькая радзіма і ўвесь неспакойны бязмежны свет. Ён хоча вольна дыхаць.

З Асіповіч у Бабруйск я не паехаў. Наездзіўся. Вярнуўся ў Крычаў да сваіх градак. Але, прыехаўшы, перш за ўсё пайшоў на Сож. Там скінуў з сябе вопратку і пялёхнуўся ў родную ваду. Адразу зрабілася лёгка, быццам бруд ад мяне адваліўся, пайшоў на дно, а ўсё светлае, ад прыроды і людзей, ува мне засталося.

Пераплыў Сож, там — луг, трава і кветкі, каровы і коні, ніводнага двухногага, нават і пастуха з каровамі не відаць, і гэта тое, што мне трэба для цела і для душы, каб вярнуцца да самога сябе. Пад старой наспаю, якою да вайны ішла Варшаўка, лёг у кветкі пад сонейкам — ах, як добра! Носам чую пах кветак, а вухам — як па іх пчолкі пасуцца, збіраюць мядок і дзелавіта гудуць.

Дома маці спытала, ці закончыўся мой пленэр. Адказаў, што закончыўся. Яна гэтаму радая. Я падаўся ў грады.

Сад дружна цвіце, нібы апошні раз. Яблыні бялюткія, як на акварэлі Федзі Кісялёва, якую ён мне падарыў. Там у яго крычаўская Замкавая гара, на ёй — Мікольская цэркаўка, ■ за гарою — Сож. Перад гарою — дамкі ды яблыні ў белым вогнішчы, дах Валодзі, знаёмага шафёра, з якім цікава, сустрэўшыся, пагаварыць пра жыццё і палітыку, якую ён крые матам.

Белізна з яблынь, белага наліву і уэлса, асыпаецца, грады засыпаныя бялюткімі пялёсткамі, а па белым дыване — кусточкі пабеленай цыбулі, лапушацца радочкі салаты — ужо церабіць можна.

Нарваў радыскі, памыў у бочцы з дажджавой вадою. Дажджы праходзяць амаль кожны дзень, і вада ў бочках чыстая, свежая.

Уначы прачнуўся, усхапіўся, на ганак выйшаў, каб праверыць ураджанне Федзі Кісялёва ад гэтакіх начэй у час цвіцення садоў. Яны сапраўды празрыстыя, выбеленыя, як белыя летнія ночы поўначы, хоць і ў Піцеры, дзе я аднойчы з сябрамі падхапіўся і бегаў па горадзе, нібы вар'ят, не могучы ўцяміць, чаму нідзе вакол мяне няма жывое душы, ані чалавечка, ані голасу, на вуліцах ніводнай машыны, каб некуды ехала, не відаць і трамваяў, горад нібы мёртвы, хоць светла — дзень у разгары? І вось я радуюся сваёй белай ночы: яблыні — белыя вогнішчы,

грады, засеяныя звонкім срэбрам, ззяе ад срэбра ганак, ззяе выбеленая сцежка ў сад, неба фасфарысцыруе, адбіваючы святло ад яблынь, дом светлы, сцены ды вокны чысцінёю ззяюць, на тэрасе — хоць садзіся за стол ды пішы свае белыя начныя летуценні.

Гэта і ёсць наша беларуская белая ноч — падчас такога, як цяпер, шалёнага цвіцення садоў.

Белы ў яблыневай квецені сад, белы дамок, адбітая ад белых яблынь пялёсткавая белізна ў начным акне, белы ганак, на ганку — выбеленая белае ноччу постаць чалавека, зачараванага ўладаю святла і чысціні ў прыродзе.

З яблынь аблятаюць пялёсткі, кладуцца на прыгожую сівую галаву, на плечы, на грудзі, на твар.

Чалавек нерухомы. Ён — Бялыніцкі-Біруля.

І ўсё астатняе — сапраўднае, канкрэтнае: час — май 1947 года, месца — Белая дача і яблыневы сад вакол яе пад старым Мінскам, на Курасоўшчыне.

Які мастак урэшце возьмецца напісаць гэтакі ў белай яблыневай замеці партрэт Бялыніцкага-Бірулі?

Ён гэтую замець любіў і пісаў. Быў ёю зачараваны.

Зайшоў у рэдакцыю мясцовай крычаўскай газеты. Я тут, як быццам, не чужы, і газета мне, як быццам, не чужая — тут, як быў малады, працаваў. Але чаму цяпер тут на мяне глядзяць інакш, як глядзелі, не тымі вачыма? Ну, вядома, былых сяброў цяпер няма, іншы час, іншыя людзі працуюць. Але ж і гэтыя глядзелі ўчора адкрыта, цяпер вочы хаваюць. Што здарылася? І раптам Саша падае мне газетку — пальцам торкнуў у трохпавярховы загаловак. Чытаю: "З пункта свайго светапогляду на мемуары Віктара Карамазава "І крыж, і поўня" за 4 і 7 мая ў газеце "Звязда". А пункт — чый? З. Скачковай — нядаўняга райкамаўскага сакратара, галоўнага ў раёне ідэолага, сёння, як райкамы адмерлі, дырэктара школы, настаўніка свецкага. Мне яе "пункты" не загадка, яны з выкінутых на смецішча падручнікаў, але газетку я ўсё ж паклаў у кішэню — з павагі да Сашы і самой, у прынцыпе, газеткі. А назаўтра дома ў кішэні знайшоў і ў газетку зазірнуў: раптам у "пункце светапогляду" З. С. знайду штосьці новае? І здзівіўся, як шмат у аўтара да мяне пытанняў:

“Чаму корпус творчых дзеячоў Рэспублікі Беларусь не можа процістаяць абвалу нізкапробнай вытворчасці Захаду?”, “Чаму секс, насілле, знявага да чалавека запаланілі экраны?”, чаму ў яе, З. С., “дух захапляе, дыханне спірае ў забу”, калі яна дазнаецца, што жывапіс Бялыніцкага-Бірулі можа мець прамыя адносіны да жыцця працоўнага чалавека? І нават яе катэгарычнае сцвярджэнне, што “калі Магамет не ідзе да гары, то гара ідзе да Магамета” абарочваецца пытаннем: хто з нас ■ З. С. гара і хто Магамет? Хоць я і здагадваюся, што гарою З. С. бачыць сябе, а мяне Магаметам, інакш яна не гаварыла б у гэтакім стылі ды тоне.

Пісьменнік, вядома, павінен адказваць на пытанні сваіх чытачоў, нават і на такія, як у З. С., і таму мне трэба было б ёй адказаць. Але калі гэтак шмат цяжкіх пытанняў узнікае ўсяго толькі з-за нейкага аднаго “пункта светапогляду” З. С., то хіба няма сэнсу пачакаць, калі прачнуцца іншыя “пункты” ў марксісцка-ленінскім светапоглядзе З. С.?

Пачакаю. Раптам не давядзецца чакаць доўга.

Знайшоў свае выпіскі з Луначарскага:

“Мы поўныя нянавісці да хрысціян. Нават лепшыя з іх — нашы ворагі. Яны прапаведуюць любоў да блізкага і спачуванне, тое, што пярэчыць нашым прынцыпам. Хрысціянская любоў не дае развіцця рэвалюцыі. Прэч любоў да блізкага! Нам патрэбная нянавісць. Мы павінны ненавідзець, і толькі тады мы зможам перамагчы ўвесь свет”.

З. С. абвінавачвае мяне ў нянавісці да сваіх землякоў. Але калі гэта так, як яна кажа, то хіба мы з ёю, я і З. С., не аднадумцы? Хоць што такое мая “нянавісць да землякоў” у параўнанні з яе партыйнай нянавісцю да ўсяго свету? І ці не таму З. С. сёння дырэктар школы, дзетак вучыць, што захавала адданасць вучэнню першага школьнага наркама?

Вось які “пункт светапогляду” З. С. прымусіў яе выказаць свае адносіны да маіх літаратурных старонак.

Пленэр падкаціўся да Мсціслава. Сюды мне даўно хацелася заглянуць, убачыць, які ён сёння, гэты заўсёды

зацішны і ўтульны для душы гарадок, ці шмат змяніўся з шасцідзесятых гадоў, калі я тут працаваў уласным карэспандэнтам абласной газеты. З Крычава выехаў у Магілёў, каб адтуль разам з мастакамі ехаць на Мсціслаўшчыну.

У магілёўскай гасцініцы першым сустрэў Бархаткова. Ён, як я даведаўся, усе дні пленэру адседзеў у Бялынічах, напісаў там пяць вялікіх эцюдаў і ад мяне іх не хаваў — папрасіў памагчы вынесці на пляцоўку да ліфтаў, дзе больш святла. Паставіўшы эцюды, сказаў: "Ну вось, глядзі, чым я быў заняты ў Бялынічах, у гасцях у Вітольда Каятанавіча". Глядзеў я з цікавасцю і здзіўленнем, якімі маладымі вачыма і сэрцам стары мастак бачыць і адчувае жыццё, як светла і энергічна піша, як шмат у яго работах настрояў, пачуццяў. З эцюдамі вярнуліся ў нумар. Антон Стафанавіч папрасіў закапаць у вочы знаёмыя мне па сваёй катаракце лекі. Ён паказаў доктарскую дыягностыку, і я жахнуўся: "Вам трэба неадкладна класціся на аперацыю!" Не, я не перабольшваў, бо сам прайшоў багата кругоў слепаты, бываў у бальніцах сярод сляпых, гаварыў з імі і ведаў, што з гэтакім, як у старога, ціскам вочнага дна з аперацыяй не марудзяць. Ён сказаў, што калі б не пленэр, дык і лёг бы на аперацыю, але з-за аперацыі не паехаць на пленэр не мог, хоць яшчэ і пасля пленэру паедзе ў вёску пад Мінскам, там напіша даўно задуманае, пасля чаго толькі зможа ісці да дактароў.

Вось што такое мастацтва для мастака.

Дарога ў Мсціслаў ляжала праз Горкі. Калі пад'язджалі да іх, у аўтобус села дзяўчына, назвалася Наташай з мясцовай газеты і папрасіла мяне паведаць, як узнікла ідэя пленэру Бялыніцкага-Бірулі, ці праўда тое, што вінаватыя ў гэтым мастакі Шагал і Павел Масленікаў. Я разумеў, на якой нячыстай глебе прарасло гэтае пытанне,таму адказваць не было ахвоты, і я сказаў толькі тое, што ні Шагал, ні Масленікаў тут не вінаватыя. Але размову пра гэта чуў і раней, у Магілёве і Бялынічах, бачыў, каго і чаму яно хвалюе, таму выказацца, думаю, сэнс ёсць.

Ідэя пленэру Бялыніцкага-Бірулі належыць магілёўскаму жывапісцу Міколу Федарэнку. Даўно ўлюбёны ў

пейзажную лірыку Бірулі і ў яго самога, сам цікавы пейзажыст, ён з гэтай задумай грукаўся ў дзверы шмат якіх абласных і сталічных рэгентаў ад культуры яшчэ гадоў трыццаць, а то і болей, назад. Памятаю, як прыгожа пра гэта гаварыў у шасцідзесятыя гады на жывапіснай выстаўцы Антона Бархаткова ў Магілёве, наладжанай на пяцідзесяцігоддзе мастака, а потым і на вячэры ў юбіляра, гаманлівай ды шчодрай, на галёрцы ў рэстаране гасцініцы "Днепр", дзе прысутнічалі людзі ўлады, якія маглі б даць ход гэтай цудоўнай ідэі. Але на ініцыятыву Федарэнкі ніхто не адгукнуўся. Ніхто ў адміністрацыі вобласці не разумеў, як патрэбныя нашай культуры і Біруля, і звязаны з яго імем пленэр. У той час наогул не было размоў ні пра якія пленэры, як і пра пленэры Шагала. Федарэнка грукаўся ў дубовыя дзверы глухіх у культуры людзей. Нават музей Бялыніцкага-Бірулі, адчынены ў Магілёве, не паўплываў на тое, каб рэалізаваць ідэю пленэру. А ў 1989 годзе, у маі-чэрвені, калі я пісаў кнігу пра Бірулю, жыў у яго родных мясцінах на Магілёўшчыне, потым на Віцебшчыне, дзе Вітольд часта бываў з бацькамі ў бабулі, цётак і дзядзькоў, у Цвярской губерні на любімых ім азёрах, у забытай усімі, закінутай "Чайцы", калі вывучыў і зразумеў, як і чым жылі Біруля і яго сябры-мастакі ў "Чайцы" аж паўстагоддзя, мне ўжо нязяжка было ўявіць, якімі творча багатымі, плённымі могуць стаць пленэры на беразе Друці, радзіме Бірулі, калі творчы вопыт, мастацкія і маральныя прынцыпы жыцця і працы, усталяваныя Вітольдам Каятанавічам у "Чайцы", удасца хоць у нейкай меры перанесці на Друць. Вярнуўшыся з вандровак, я выказаў гэтую думку ў прэсе, а калі ў 1991 годзе ў свет выйшла мая кніга пра Бялыніцкага-Бірулю, прыйшоў з ёю да міністра культуры Анатоля Бутэвіча і выклаў яму свае думкі аб пленэрах на Магілёўшчыне. Міністр мяне зразумеў, ідэю падтрымаў, абяцаў яе частковае фінансаванне. Трэба было шукаць астатнюю частку. Тады я ўжо быў заняты мастацкім фільмам пра Бірулю, і калі фільм выйшаў на экраны прэм'ер і прэзентацый, я з'явіўся ў кабінеце начальніка ўпраўлення культуры Магілёўскай вобласці Міхаіла Дарашкова — з кнігай, фільмам і той самай ідэяй. Дарашкоў ідэю пленэру падтрымаў, але выказаў думку, што калі

яго праводзіць, то трэба звязаць з двума мастакамі — Бірулем і Масленікавым, праводзіць як пленэр Бялыніцкага-Бірулі і Паўла Масленікава. Я гэтакай думцы здзівіўся, у той час яшчэ не ведаючы, як блізка сябравалі кіраўнік культуры вобласці і Масленікаў, і сказаў, што Біруля і Масленікаў мастакі вельмі розныя не толькі ў сэнсе мастацкіх прынцыпаў і жанраў, але і маштабаў, у сэнсе значэння і месца ў жывапісе, што запрагаць іх у адзін воз — тое самае, што запрагаць — па Пушкіну — каня і «трепетную лань».

І вось — першы пленэр Бялыніцкага-Бірулі. Выступаюць адміністратары і ў адну дуду дундзяць, нібыта Павел Масленікаў — бацька пленэру. Але каму патрэбная гэта няпраўда? Павел Васільевіч быў добрым чалавекам, някепскім майстрам у сваім жанры, з ім прыемна было сябраваць, але прамых адносін да пленэру Бялыніцкага-Бірулі ён — скажам шчыра — не мае.

Ах, пленэру патрэбны бацька? Тады і скажам усё як ёсць: ідэя пленэру належыць найперш мясцоваму мастаку Міколу Федарэнку. Не тая кандыдатура? П'е гарэлачку, часта не закусваючы, і выказваецца занадта смела? Але Павел Васільевіч гарэлачку любіў таксама. Хто яе не п'е, які начальнік? Пад іншую закусь? Ну, вядома. Але ж мы вядзём размову зусім пра другое — пра аўтарства ідэі. Ці ўжо і гэта — разумная ідэя — можа быць толькі ў галаве чалавека пры высокай пасадзе і рэгаліях?

Тут мне прыгадваецца лёс вялікага мастака, аднаго з самых першых авангардыстаў пасляваеннага рускага жывапісу Анатоля Зверава, якога проста выкінулі з Маскоўскага мастацкага вучылішча за неахайны знешні выгляд, а дакладней за тое, што быў бедны, сірата, хадзіў галодны і босы. З-за гэтага не прызнавалі яго цудоўны талент, і патрэбны быў прыезд у Маскву вялікага іспанскага мастака Сікейраса, патрэбны быў конкурс маладых мастакоў свету пад яго старшынствам, трэба было зрабіць гэты конкурс адкрытым для ўсіх, багатых і бедных, патрэбная была сустрэча Сікейраса са Зверавым — як шмат выпадковых сітуацый! — каб Сікейрас убачыў работы Зверава, яго лінію і колер, і каб ён, старшыня журы, абвясціў маладога мастака залатым пэндзлем новага жывапісу.

Залаты дыплом пераможцы Звераву так і не далі. Ён памёр, яго не ўбачыўшы. Пакуль Сікейрас быў у Маскве, дыплом яшчэ не быў зроблены, а калі Сікейрас паехаў, пра Зверава і яго залаты дыплом пастараліся забыць.

Але гэта — наша мінулая рэальнасць.

Ці гэтая рэальнасць заўсёды наша?

Навошта падымаць размову пра маленькую хлусню, калі вялікай вакол — мора, калі мы ўсе ў ёй патанулі, магчыма — назаўсёды?

Але хіба патанулі ў вялікай хлусні не таму, што атрафіраваліся рэфлексы на хлусню малую? Рэанімiраваць іх, кожнаму — хоць у сабе, ці не ў гэтым наш паратунак?

Таму і мой роздум пра хлусню — як пра вялікую.

А можа, яе, хлусні, і наогул няма маленькай? Можа, яна ўся, любая — бруд вялікі?

Ад маіх публікацый у "Звяздзе" нейкая карысць усё ж ёсць. Прозвішча Вітольда Каятанавіча нашы адміністратары пачалі вымаўляць іначай. Ужо не Бялыні́цкі, з націскам на першае "і", а "Бялы́ніцкі" — з націскам на "ы". Гэта па-нашаму. Але з другім словам — бяда: ляпяць па-ранейшаму — Біруля, націскаючы на "я". Цяжка зразумець — чаму? Калі дайшло, што называць свайго класіка трэба па-нашаму, як яго, беларуса, назвала родная зямля, родныя маці ды бацька, то чаму гэтага прасвятлення хапіла толькі на адно слова, а на другое ўжо не хапіла? Але і гэтаму ёсць тлумачэнне: у нас, беларусаў, двухмоўе, дзве раўнапраўныя па канстытуцыі мовы, беларуская і руская, і тое, што першая частка прозвішча вымаўляецца па-беларуску, а другая па-руску, як быццам адпавядае закону аб роўных правах дзвюх моў.

Вось да якога ідыятызму можа давесці змаганне з так званым беларускім нацыяналізмам.

Ясная цёплая раніца. Мастакі паехалі ў жывапісныя разваліны былога манастыра, у Пустынкі, што за кіламетраў дзесяць ад Мсціслава, а Бархаткоў, Бараноўскі і Алейнік засталіся ў горадзе, каб ісці на Замкавую гару і там пісаць. З імі і я падаўся.

Сцежка вывела да касцёла, а далей — па равах ды

кручах. Стары Антон цяжка соп, стараючыся ад нас не адставаць, на ўсіх бурчаў, што спакусілі ісці ў прорву д’ябла. “Самі,— казаў,— маладыя, здаровыя, як коні, навошта старога хворага чалавека з сабою павалаклі, не ведаючы, куды ідуць; паехаў бы з усімі на аўтобусе і ўжо, не стаміўшыся, пісаў бы, а тут яшчэ невядома, куды і калі зойдзеш — там зваліпся, стомлены, і на гэтым — увесь жывапіс”. Мы яму ісці дапамагалі. Я ўзяў на плячо эцюднік, сустрэліся добрыя хлапчукі — вялі старога падручкі. З рова нарэшце выбраліся і далей не пайшлі. Спыніліся на Троіцкай гары. Мастакі разбрыліся, кожны сабе аблюбаваўшы купіну, але ўсіх прывабіла панарама на зароўе, дзе з зяляніны ў блакіт неба ўзнімаўся, як жывы, беласценны касцёл. Хлапчукі збеглі назад у роў, а я падаўся ў поле, дзе мужык [redacted] канём баранаваў бульбу.

Ідучы, азірнуўся.

Антон ляжаў на траве і глядзеў у неба.

Калі гадзіны праз тры я вярнуўся са свайго абходу мсціслаўскіх ваколіц, мастакі ўжо сядзелі вакол раскладзенай на мурагу закускі і травілі былі-небыліцы, як тыя паляўнічыя на вядомай карціне Пярова. Эцюд Бархаткова ляжаў амаль гатовы, і стары ім, як я заўважыў, быў задаволены, у той час як у яго маладзейшых сяброў падрамнікі яшчэ стаялі на трыногах — работа толькі пачыналася. Гэта мяне здзівіла. Я думаў, калі пакідаў іх, што атрымаецца наадварот: маладзейшыя — напішуць, а стары — яшчэ больш расхвалюецца, за імі не паспяваючы. Не ўгадаў. Не ведаў старога.

Вярталіся мы з ім удвух, бо ён сваю справу зрабіў. У роў, якім прыйшлі на гару, спускацца не захацелі, знайшлі іншы, адхонны і чысты, па дне якога бегла спакойная сцежачка, і той сцежачкаю лёгка выйшлі да хаты з варотцамі, міма якіх у зялёных берагах цёк ручай. Там, перад варотцамі, была крыніца ў драўляным зрубе і лавачка. Крынічную ваду пілі з ахвотаю. Сфатаграфаваліся на ўспамін пра цудоўны дзень і прыгожую мясцінку, бо ў мяне быў фотаапарат. Размова зайшла пра пейзажы Бялыніцкага-Бірулі. Антон Стафанавіч прыгадаў некалькі выпадкаў з яго і свайго жыцця, з іх сяброўства. Я, вярнуўшыся ў гасцініцу, тыя ўспаміны занатаваў у сшытак:

хай вылежацца, дачакаюцца месца ў маім радку і праз яго выйдуць да людзей.

Тое-сёе з расказанага стары забараніў мне пускаць у свет. “Гэта,— казаў,— я нікому яшчэ не давяраў, табе — першаму, і акрамя нас з табою ніхто не павінен ведаць”. Я абяцаў.

З таго, што можна расказаць, пакуль што — хоць гэтую старонку, самую бяскрыўдную. Тым больш, што было даўно.

Калі пасля вайны, у сорак сёмым, Біруля прыязджаў у Мінск і жыў на Белай дачы на Курасоўшчыне, ён аднойчы выправіўся ў госці да Якуба Коласа. З сабою ўзяў жонку Алену Аляксееўну і маладога тады Антона. Як былі ў гасцях у Коласа, я пісаў ужо ў сваёй кнізе пра Бірулю, як увесь вечар, пакуль сядзелі за гасцінным сталом, ішоў дождж, як Колас усё пазіраў у двор на лапінку жыта ў садку пад дажджом і раз за разам паўтараў: “Будзе дождж — будзе і хлеб. І ўсё будзе добра”. А вось як вярталіся ад Коласа на Белую дачу, што адбылося ў дарозе, я тады не ведаў і ў кнізе не апісаў.

Каб ноччу адвезці гасцей, Колас даў сваю машыну. За руль сеў яго сын Даніла. Ноч была глыбокая, дождж аціх, але ўсюды паналіваў лужын. Як толькі заехалі на Курасоўшчыну, машына ўвалілася ў яму з вадою і заглохла. Мужчыны разуліся, павылазілі босыя з машыны, пачалі пхаць яе з лужыны. Сілы мала. Даніла пайшоў праз вуліцу да высокае агароджы, апавітай калючым дротам. Там быў лагер ваеннапалонных, якія ў той час, адразу пасля вайны, працавалі ў Мінску на адбудове горада. Перагаварыў з дзяжурнымі афіцэрамі, і тыя далі палонных немцаў, чалавек пятнаццаць. Даніла зноў сеў за руль, завёў матор, немцы абляпілі машыну і пачалі выпіхваць яе з лужыны. Але што такое — машына ні з месца? Як быццам і сілы мужчынскай — больш не трэба, і матор вые, пасабляе, а з лужыны — ні на крок. Немцы гергечуць па-свойму ды рагочуць. Бачыць Антон, што яны зусім не хочуць выцягваць машыну з лужыны, адны пхаюць яе ўперад, а другія назад — разгойдваюць ды рагочуць. Узлаваўся і пачаў гуляць кулаком па тварах. Даў аднаму, другому, трэцяму. Яны ад машыны адсыпалі і падаліся ў сваю задротавую рэзідэнцыю. А госці Коласа

пашлёпалі босыя па вадзе ўслед за Бірулем на Белую дачу.

— Вось як было, — закончыў сваё апавяданне Антон Стафанавіч. — Але ты гэта не напішаш.

— Чаму? — пытаюся.

— Не надрукуюць.

— А калі надрукуюць?

— Будзе міжнародны скандал.

— Мільёны людзей перамалолі, а тут усяго тром-чатыром твары наквасілі — скандал? Тым больш што заслужылі.

— А гэта праўда,— усміхаецца стары. — За Бірулю мне тады стала крыўдна. Што не паважаюць.

— А яшчэ было так,— працягваў Антон Стафанавіч.— Аднойчы Біруля сабраўся ехаць з “Чайкі” ў Маскву, а я заставаўся на дачы. “Пішы,— кажа,—я хутка вярнуся”. Але здагадаўся, што пісаць няма на чым. Адвёў, каб Алена Аляксееўна не чула, ды шэпча мне на вуха: “Там, на гарышчы, ёсць падрамнікі. Сцяпаша, як тут жыў, пакінуў, ляжаць, а палатно возьмеш з канапы, калі Алена з дому пойдзе. Ты яго, каб яна не бачыла, лязом чык-чык — зрэж, і будзе добрая палатніна. А калі яна заўважыць ды пачне распытваць, куды дзявалася палатно з канапы, скажы, што Вітольд Каятанавіч адзін пра гэта ведае — спішы на мяне”.

І закончыў:

— Вось які быў Біруля. Усё, апошняе, бывала, аддасць для жывапісу, для сяброў.

— Памятаю, — вёў далей стары, — як я першы раз ішоў да яго ў “Чайку”, з Удомлі, чыгуначнай станцыі. Дарогі не ведаў. Бачу: мужык вязе на кані бярвенне з лесу. Пытаюся, ці дайду гэтай дарогай да “Чайкі”? Ён на мяне глядзіць: “Да самога Бірулі?” “Так,— кажу,— да яго”. Мужык шыю выцягнуў, свіснуў: “У-гу, які памешчык! Да яго сябры як панаедуць, дык ён збярэ вясковых паляўнічых на звера, два ці тры дні палююць, а потым мужыкоў пасадзіць, рукі ў кішэні засуне і адтуль жменямі, як узяць, грошы — аднаго поўнай жменяй адо-

рыць, другога поўнай, трэцяга поўнай. Нікога не абыдзе, не пакрыўдзіць. О, добры памешчык!”

Вось і яшчэ:

— Шмат хто з маладых хацеў пісаць так, як пісаў ён, срабрыстым тонам. А хіба чужой душою напішаш? Павучыцца ў майстра — справа іншая. Ты да мяне прыйшоў, на пейзаж паглядзеў і сказаў: “Як у Бірулі”. І ўгадаў: рука Вітольда Каятанавіча там пахадзіла. А як было? На Белай дачы ў сорак сёмым мы з ім часта пісалі сад, яблыні, квецень. Ён піша, паглядае, як я працую, штосьці скажа, як быццам неабавязковае, але я лаўлю кожнае слова, запамінаю. Б’юся, памятаю, не атрымоўваецца цень. Чую голас: “Цень трэба класці гусцей, тады і атрымаецца пярэдні план”. А то чую: “Сёння журы”. І гэта было сур’ёзна. Пасля работы ставім перад сабою эцюды, садзімся перад імі і пачынаем разбіраць, што на іх зроблена як след, дакладна, прыгожа, а што не так, сыра, чаму не так, як трэба. Я часцей маўчаў, каб болей гаварыў ён, а ён лішняга гаварыць не любіў, тым больш пустога, што ні скажа — як у сук улепіць. І гэта былі самыя дарагія для мяне ўрокі жывапісу.

Антон Стафанавіч — жывапісец, безумоўна, малады. 82 гады? Што з таго, калі па гарах лазіць нібы кошка, піша — ад маладых не адстае, з пачуццём, сакавіта, каларытна, гады душу не стачылі, і пагаварыць любіць, і чарачку возьме. Якая старасць?

Я яму гэта кажу, а ён мне адказвае:

— Біруля таксама старым не быў, калі глядзіш на яго пейзажы…

Пытаюцца, што можна прачытаць пра Бялыніцкага-Бірулю, дзе купіць альбом з рэпрадукцыямі карцін, кнігу пра яго. Адказваць на гэтае пытанне не цяжка — балюча. Былі альбомы, былі кнігі — даўно нідзе нічога няма ў продажы. Ён сам пра сябе шмат сказаў, як і пра іншых мастакоў, яго проза, вершы, лісты даўно ў кнігі просяцца — не выдаецца. Калі Божадар спытаў, як набыць маю кнігу пра Бірулю, я нічога лепшага не мог прыдумаць, як зайсці ў Магілёве ў гарадскую бібліятэку і папрасіць, каб

адзін экземпляр знялі з рэестра, зрабілі такую ласку і аўтару, і госцю-славяніну, ды аказалася, што ў бібліятэцы толькі адзін экземпляр і ёсць. Тым не менш, кнігу з бібліятэчным штампам Божадару падарылі, а я завінаваціў бібліятэцы.

Пакуль ішоў пленэр, я ўвесь час шукаў магчымасць пагаварыць з яго арганізатарамі, дзяржаўнікамі-культурнікамі, на ўсе гэтыя тэмы, але ад размовы яны заўсёды адмахваліся, быццам я іх падбіваў на нейкае злачынства. Паспрабаваў завесці пра гэта размову на апошняй прэс-канферэнцыі, дзе падводзіліся вынікі пленэру, але старшыня аргкамітэта, які яе вёў, мяне спыніў і сказаў, што прапановы па пленэру і Бірулю тут не да месца. Я спытаў: "А дзе ж яны да месца?" Ён змоўчаў. Я з прэс-канферэнцыі пайшоў і з пленэру адразу паехаў дадому, каб самому на ім не быць лішнім.

Прэс-канферэнцыя яшчэ запомнілася тым, што сказаў Божадар Кавачавіч. Ён сказаў, што мастакам на пленэры не патрэбна ніякая ідэалогія. І гэта прагучала якраз пасля выступлення Віктара Грамыкі зусім пра іншае — што мастак без ідэалогіі жыць не можа.

Яшчэ Божадар паведаў, што ў Сербіі бывае шмат пленэраў. Там кожная вёска можа сабраць мастакоў, іх карміць, паіць, тыя будуць адчуваць сябе як дома, пісаць, дарыць добрым людзям карціны і цяплынь сваіх сэрцаў. Ён як бы даў нам зразумець, што праводзіць пленэры можна без дзяржаўнай казны і адміністрацыі, не рызыкуючы падарваць эканоміку і палітычны падмурак дзяржавы.

Вось толькі ці шмат у нас сёння вёсак, якія маглі б пракарміць хоць колькі мастакоў?

З прыемнасцю, бывае, прыгадваеш людзей, якія на маёй дарозе да Бірулі былі падтрымкаю, нават і зусім нечаканай.

Ірына Мікалаеўна працавала інспектарам у Фрунзенскай падатковай інспекцыі Мінска. Я трапіў да яе, каб прадэкларавацъ літаратурныя ганарары за год. Перад гэтым выйшла мая кніга пра Бірулю, і ганарар за яе я ўключыў у дэкларацыю. Ірына Мікалаеўна мае тыся-

чы палічыла і пытаецца, ці шмат траціцца пісьменнік, каб напісаць ды выдаць кнігу. Я кніжачку з сумкі дастаў, ёй падаў, яна яе пагартала, мясцінамі бегла пачытала ды і кажа: "Каб гэта напісаць, трэба шмат дзе пабываць, шмат чаго знайсці і вывучыць?" Я ёй паведаў пра свае вандроўкі ў пошуках мастацкіх вобразаў, даследванні жыцця і творчасці галоўнага героя. Ірына Мікалаеўна пытаецца, хто мне аплачваў дарогі, дні і ночы ў дарогах, хто мяне карміў, паіў? "Ніхто,— кажу,— на ўсё — свая кішэня, камандзіровак ніхто не выпісвае, дні і ночы не аплачвае, калі пісьменнік не начальнік". Тады яна паклала перада мною аркуш паперы і сказала: "Пішыце". І пачала дыктаваць. І я пісаў: колькі дарог праехаў па слядах Бірулі, колькі за гэты час спаліў бензіну, праеў харчоў. Яна мой тона-кіламетраж пералічыла на машынцы, збегала да свайго начальніка за подпісам, выпісала чэк на грошы, ды не малыя — тысячы ў той час нешта важылі. І за кніжку падзякавала. Падышоў я да банка, а дзверы не адчыняю: можа, яна памылілася, выпісваючы чэк на грошы? Падатковая інспекцыя павінна з нас браць, яе ўсе клянуць, што шмат бярэ, а тут не бярэ, а дае?! Раптам Ірына Мікалаеўна ад свае дабрыні памылілася, і яе з-за мяне пакараюць па службе? Разбяруцца, што атрымаў не свае грошы, трэба будзе вяртаць, а іх, можа, у мяне ўжо не стане? Вярнуўся я да падатковага інспектара і кажу: "Тут ці не памылка, трэба разабрацца". А яна ўсміхаецца: "Няма тут памылкі — мы вам павінны, а не вы нам".

Цяпер я пра гэта ўспомніў і падумаў: "Павучыцца б нашым дзеячам ад культуры ў падатковага інспектара Ірыны Мікалаеўны любові да літаратуры і разуменню працы пісьменніка".

Быў за Сажом на лузе, збіраў чабор. Луг яшчэ не косяць, жывёлу па ім не пасуць — ёсць і трава, і кветкі. Жменю ружова-фіялетавых кветак паклаў у рукзак, спіну разагнуў і бачу перад сабою, крокаў за дзесяць ад сябе, сабаку. Здзівіўся: адкуль ён тут узяўся, калі чалавека вакол не відаць, жывёлы няма — вада шырокая, зарэчча? Бадзяга? Ды не, чысты, дагледжаны. Вушкі ды гальштук белыя, сам чорны. Галаву схіліць то на адзін бок, то на

другі і з мяне вачэй не зводзіць. Пашкадаваў, што няма чаго даць. А ён і знік у высокай траве, як адчуў, што ў мяне кішэні пустыя. Я пайшоў далей.

Хадзіў па лузе доўга і пра сабаку забыў. Але калі падышоў да Сажа, каб перайсці ўброд, яго зноў заўважыў. Як тады, ён стаяў блізка ад мяне, крокаў за дзесяць, і за мною сачыў. І мне раптам падалося, што гэта ніякі не сабака, а пярэварацень з сабачай, у масцы, мордай. "Ух, сексот!" — выдыхнуў я і запусціў у яго рукзаком.

Калі перайшоў Сож і сядзеў пад вярбою на беразе, абуваўся, падумаў: "Што са мною робіцца, адкуль гэтакая рэакцыя на звычайнага сабаку, ні ў чым перада мною не вінаватага? Ці не з пленэру? Ці не ён пасеяў ува мне ідыёцкую падазронасць?.."

Тут, каб усё да канца зразумець, прыгадваю сцэнку з нашых пленэрных будняў.

Было гэта ў Мсціславе. Мастакоў, удзельнікаў пленэру, знаёмілі з горадам, яго гісторыяй. Заходзім у музей. З адной залы пераходзім у другую. Я іду ў натоўпе першы. У другой зале — чарапы, косткі мамантаў, дыназаўраў, пах чарапоў ды костак, як у першабытнай пячоры. Падняў вочы пад столь і ад нечаканасці аслупянеў: на ўсю сцяну аграмадны партрэт вусатага чалавека. Ад нечаканасці, ці што, узяў ды перахрысціўся. І тут падлятае мастак Д., які ў нас быў абраны старастам групы, на мяне рот раскрыў: "Як вы можаце? Гэта наш бацька!.." А я і гэтакай рэакцыі не чакаў. Кажу: "Дык перахрысціцеся перад іконаю". І ўжо ён аслупянеў: што рабіць? Перахрысціцца, як я, не можа, бо ён жа мяне за гэты крыж вунь як адчытаў, зразумеўшы, што крыж мой — адна іронія, а не перахрысціцца як быццам таксама нельга, калі на сцяне перад табою святы і табе кажуць перахрысціцца? А мне яго шкода зрабілася. Я прайшоў праз залу і выйшаў на вуліцу: можа, як я не буду бачыць, яму лягчэй будзе перахрысціцца.

Сцэнка выпадковая? Не, ёсць глеба, на якой чаго толькі не бывае. Вось, дарэчы, яшчэ адтуль.

Вячэра ў кафэ гасцініцы. Усе паелі і разышліся. Засталіся толькі мы ўдвух з Бараноўскім за столікам ды

яшчэ за другім столікам у процілеглым кутку кафэ тры чалавекі з нашай пленэрнай адміністрацыі. У нас свая размова, там — свая. Чаму б і не пагаварыць, калі нікому як быццам не шкодзіш? Але ўсхапіўся за тым столікам чалавек, да нас падбег, схапіў мяне за руку і пачаў круціць, не кажучы ні слова. Мы на яго глядзім: можа, звар'яцеў? А ён руку круціць, зубамі скрыгоча. Я яго адпіхнуў. Ён адляцеў і — за свой столік. Мы з Анатолем глядзім адзін на аднаго, смяёмся. Але ж і сумна. Зразумелі, чаму адміністратыўны шпунт падбег ды ўчыніў прыдуркаваты гвалт. Тым, большым, што з ім былі, адміністратарам не спадабалася, што сядзім удваіх, на іх увагі не звяртаючы, вядзём вольную, як вольныя людзі, бяседу, вось і далі каманду халую, каб спыніў нашу размову. Той зрабіў як мог — начальству дагадзіў.

Мы з Анатолем выйшлі з кафэ.

Што ж тут здзіўляцца, калі, пабыўшы на пленэры, я ў сабаку ўбачыў ваўкалака?

Пленэры Бялыніцкага-Бірулі патрэбныя нашай культуры. Не халуямі ды чыноўнікамі, а мастацтвам і мастакамі, жыццём штодзённым мастакоў у прыродзе, творчым духоўным брацтвам, якое выхады мела тут не толькі ў творчыя работы, дало, як вынік, цудоўную пейзажную выстаўку ў залах мастацкіх музеяў, але і да людзей у вёсках і гарадах Магілёўшчыны, якія любяць жывапіс, знаходзяць у ім радасць, прагнуць сустрэчы з мастакамі, хочуць пачуць іх слова і душу. А колькі дзетак за час пленэру праз сустрэчы з мастакамі ў школах, музеях, проста на вуліцы, у прыродзе далучылася да святла, духоўнага хараства, якое сее мастацтва. І як удала гэтае свята культуры выявіла асобу выдатнага жывапісца Бялыніцкага-Бірулі, нашу радасць мець яго, усенародную да яго любоў. Пленэр шмат пасеяў. А значыць — шмат узыдзе. Узыдуць каласы дабра, святла, прыгажосці.

## *Жнівень, 2000*

Жыву на Осліку.

Што за Ослік? Рэчка. Тут і вёска Ослікаўка. Ослік упадае ў Друць на радзіме Бялыніцкага-Бірулі. Адкуль гэтакія назвы — Ослік, Ослікаўка — у нас, дзе не было аслоў, дзе яны проста непатрэбныя, бо беларусу заўсёды хапала коней. Адкуль — не ведае нават сама Ослікаўка. Але Ослік спакойна бяжыць у Друць, а Ослікаўка стаіць на маёй дарозе паміж Мінскам і Крычавам, дзеліць яе на два роўныя кавалкі. Праехаўшы мост цераз Ослік, часта прашу вадзіцеля аўтобуса, каб затармазіў: тут выйду.

На скрыжаванні дарогі і Осліка ёсць два дамы, у якіх бываю з прыемнасцю. Адзін — справа ад моста, на самым беразе рэчкі, другі — злева, у канцы вёскі, на мяжы вёскі і лесу. У доме справа жыве даўно добра знаёмы Рыгор Іванавіч Кузняцоў, якога я ведаў яшчэ маладым ляснічым у зусім блізкім адсюль Асаўцы. Цяпер ён дырэктар лясгаса. Ну, а дом праз дарогу — таксама яго задума: прытулак паляўнічым. Дом паставілі гэтым летам, яшчэ тынкуюць, фарбуюць, але тое, што ўжо зроблена, грэе ды радуе, бо кожная дошчачка падагнаная з густам, па-гаспадарску, на радасць чалавеку, якому тут давядзецца жыць.

Цяпер у доме жыву я. Ці не першым з гасцей яго адкрыўшы, ва ўсякім разе — адным з першых, я тут адзін — і госць, і вартаўнік. Па вечарах, пасля работы, заглядае Рыгор Іванавіч, а раней за ўсіх, штораніцы, сюды з'яўляюцца сабакі егера Міколы Лычкоўскага. За імі следам прыходзіць і сам Мікола, Коля, як яго тут завуць. Сабак ён называе "мае сабачкі", і гэта дакладна — яго, бо ён без іх жыць не можа, як і яны без яго. Я люблю глядзець, як ён ідзе палявой дарогай ад свайго, на краі вёскі, дома: злева — жыта, справа — бульба, каля ног усе чатыры гадаванцы, і толькі Барс, старая сібірская лайка, рахманы ды годны, а тыя трое, разнамасныя і рознапародныя шалапаі, яшчэ дзеці, што мячыкі паміж ног у гаспадара і Барса: то пакоцяцца далёка ўперад, дурасліва кулдыкаючыся адзін на аднаго, то ў жыце знікнуць, потым глядзіш — ужо недзе ззаду, сплёўшыся, адзін на адным і адзін пад адным, з дарожнага пылу падхопяцца і ў

ногі — ацерціся аб калашынне гаспадара. Коля на іх, бывае, крыкне, але з усмешкай, радуючыся, што растуць вясёлыя байцы-задзіры, кожны з характарам, норавам, ужо відаць, што будуць паляўнічыя. Хутчэй, як гаспадар, іх супакоіць Барс: гыркне, аднаго адштурхне, другога пад сабою скамечыць, але і яны, усе разам, яму яшчэ дадуць — адзін за ногі, другі за вушы, трэці за хвост. Што з дзецьмі паробіш? Зла на іх няма ні ў Колі, ні ў Барса. Адна радасць.

Паснедаўшы, я вешаю на плячо эцюднік і адпраўляюся берагам Осліка шукаць сваю паляўнічую радасць.

Кожны жывы чалавек — паляўнічы. Адзін палюе звера, другі рыбіну, трэці жанчыну, чацвёрты чарку ды скварку, пяты парадуецца чарцы і без скваркі, шмат хто ў наш час палюе на "зялёныя", ці як іх яшчэ называюць — "баксы". А мне б упаляваць такі пейзажны матыўчык, каб сэрца сваё парадаваць і дом, у якім я з міласці Рыгора Іванавіча жыву, хоць крыху сагрэць.

Лета мокрае, гнілое. Рэкі павыходзілі [redacted] берагоў, пазалівала лугі. Бяда і гаспадарам, і гаспадаркам, і, вядома, жывёле, пазбаўленай пашы на лепшых прырэчных выганах. І яшчэ шмат каму бяда. А мастак і ў бядзе знаходзіць сваю радасць. Вада — заўсёды зманлівая для яго стыхія.

Вечарэе. Каля дома сяджу на беразе, любуюся сонечным захадам у небе і яго адбіткам у вадзе. Ослік цячэ па лузе, ад дома і ад мяне, калі суха, да яго пяць хвілін хады, але цяпер тут вада — стаіць па траве, трава тырчыць з яе зялёным пер'ем, тырчаць счарнелыя кветкі, а дзе залева вышэй травы, там з вады толькі кусты відаць, усё роўна як плывуць выратавальныя для тапельцаў кругі. Цікава глядзяцца па залеве дарогі, накатаныя машынамі, калі не было вады, у сухое надвор'е, па лузе: каляіны — шнуры вады, а паміж іх і з бакоў — тырчыць трава. Сонейка садзіцца на лес, хаваецца за пасам збітых, нібы авечкі ў гурт, воблакаў на даляглядзе, неба над лесам трывожна-пунсовае, і такая самая вада паміж лесам

і мною, толькі на вадзе чырвань гусцейшая, змешаная з тонам вады і лугу, трывожная, нагадвае пейзаж Станіслава Жукоўскага “Чырвоная вада Палесся”. “Вось бы і мне,— думаю,— разліць на палатніне гэты чырвоны, што па вадзе і па небе, мажор, ды няма той палатніны. Трэба дачакацца Рыгора Іванавіча — можа, у яго знойдзецца кардонка ці фанерка”.

Сонца апускаецца ўсё ніжэй, ужо і плешыка не відаць, схавалася за далёкім лесам, а чырвань у небе і на вадзе не гасне, наліваецца ўсё большай трывогай.

На вёсцы рыкаюць каровы. Прыйшлі з пашы.

Берагам, паўз ваду, у вёску спяшаюцца два хлапчукі [redacted] таптушкай і мокрым рукзачком. Я іх спыніў і пацікавіўся, ці багаты ўлоў. Рукзак быў поўны рыбы, а хлопцы вясёлыя, гаваркія; сказалі, што рыба [redacted] рэчкі выйшла на луг, а вада на лузе неглыбокая, цёплая, лавіць таптухай па траве адна любата. Я іх папярэдзіў, што пад вадою ёсць ямы і канавы, таптаць рыбу ў траве небяспечна, але яны з мяне пасмяяліся: ведаем, маўляў, самі ўсе канавы і яміны.

Гаварылі нядоўга, але за гэты час далягляд ссінеў і чырвань абвуглілася, вада пагасла, накрылася сінім прысакам.

Я шкадаваў, што ўпусціў цікавы матыў.

Хадзіў у вёску Асавец, шукаў хату знаёмага пчаляра, у якога летась купляў цудоўны мёд і плаціў усяго па мільёну за літр. Шукаючы хату, выйшаў на бераг Друці, што разлілася яшчэ мацней за Ослік, заліўшы лугі, і бачыў, як па рацэ, нібы карабель, плыў стог сена, а на стозе стаяў, нібы капітан карабля, бусел. Спачатку падумаў, што добра было б напісаць гэтакі пейзаж — стог з буслам у прасторы вады, а потым адчуў, што пісаць як бачыш, што бачыш, рэалістычна, больш-менш дакладна перадаючы натуру і ў малюнку, і ў колеры, тоне, як патрабуе ад мяне Антон Стафанавіч, я не то баюся, не то адчуваю, што не змагу. Карабель, стог з буслам, хоць і прыгожа глядзеўся б у прасторы вады, але бачыцца мне не толькі ў зямным сэнсе, у большым, як зямным,— тут зямное і касмічнае, вядомае і невядомае. Зямное ў вобразе мае выхады да вялікіх абагульненняў, да сусветнага, і, каб даць волю ўсім

сваім адчуваннем перад натураю — стогам з буслом на вадзе, мала школы Антона Стафанавіча, як бы я не любіў яго жывапіс і яго самога. Гэта стан душы, якая шукае выйсця, хоць і з дапамогаю стога на вадзе і бусла на стозе.

Душа шукае выйсця. З якога стану і куды? З жыцця ў чорным квадраце Малевіча? Яго квадрат — наша акно? Там, дзе чорнае акно, няма святла, пануе цемень, хлусня, сон, пакора, рабства? Душа бунтуе? А калі ў пакоі з чорным акном на сценах светлыя пейзажы Бялыніцкага-Бірулі? Душа супакоіцца?

Ці не ў гэтай сітуацыі нарадзіўся авангард? Ну, вядома, яго нарадзілі рэвалюцыі і войны. Пачатак стагоддзя на іх у Расіі быў багаты, і невыпадкова прынамсі тут узнік самы магутны ў мастацтве авангард. Як адчуванне ўстрывожанай душы мастацтва, што час радасці і супакою мінуўся, прыйшоў час ратунку з пекла, што мастацтва ўжо не можа глядзецца ў люстэрка рэалізму, тым больш сацыялістычнага, прыдуманага не прыродай, а пачварнаю ідэяй, што сабе і людзям трэба шукаць выйсце. Чорны квадрат Малевіча да гэтага клікаў, вёў.

Улада яго падавіла. Але тая самая ўлада нарадзіла 1937 год, [redacted] гэты год вярнуў да памяці людской квадрат Малевіча — чырвоны сцяг рэаніміраваў чорны квадрат. А тут — фашызм на Захадзе, новая сусветная вайна. Шлях новай хвалі авангарду быў адкрыты. І ўжо не памаглі маскоўскія бульдозеры.

А як жа сёння быць з Бялыніцкім-Бірулем, з яго пленэрамі на Друці? Біруля — класік. Яго не спішаш ніякім авангардам. Ніякім новым часам.

Мастака ратуе яго час. А пейзажы, якія мы сёння пішам на яго пленэрах? Свой час вытрымаюць? Новы час?

Тут — чую Вашчанку:

— Ёсць показка: "Той не мастак, хто ў маладосці не быў авангардыстам, як не мастак і той, хто ў старасці не стаў кансерватарам".

Ён сам з тых, хто праз чорнае акно Малевіча прайшоў у свой космас, вынес туды з-за чорнага акна сваё разуменне і адчуванне свету, быў бітым і даволі жорстка бітым авангардыстам, сабе не здрадзіў ні ў чым, з дарогі ў мастацтве, на якую выйшаў маладым, не сышоў і ў той

жа час кажа, што ён рэаліст, і ўдзельнічае ў пленэрах Бялыніцкага-Бірулі. Як тут не ўспомніць, што і сам Біруля пры жыцці бянтэжыў шмат каго сваім рэалізмам, непадобным на той, што прызнаваўся нормаю, хадзіў у імпрэсіяністах, якіх не прызнаваў сацыялістычны рэалізм, не прызнавалі адразу нават перадзвіжнікі. А імпрэсіяністы хіба адразу прызналі Ван-Гога?

Рэалізм у жывапісе наступаў сабе на пяты, бо жыў, працаваў, мяняўся, абнаўляўся, заўсёды чуючы свой час, яго дыханне. І хто ведае, ці не прызнае XXI стагоддзе, што авангард XX стагоддзя якраз і быў ягоным рэалізмам?

Бялынічы рыхтуюцца прыняць мастакоў пятага пленэру Бялыніцкага-Бірулі. Якім ён, пяты, будзе? Апошнія праводзіліся з вялікімі цяжкасцямі,і вынікі былі не лепшыя: ні новых цікавых мастакоў, ні мастацкіх адкрыццяў на заключных выстаўках. Вядомыя мастакі сюды не прыязджалі, бо не лепшых былі ўмовы жыцця і працы, а выстаўкі такія, як мастакі. У раёне пра культуру дбаюць, Бірулю шануюць, пра музей з яго работамі клапоцяцца, тут у культуры працуюць патрыёты, яны ўсё робяць, каб мастакі сюды ехалі, каб пленэры адбываліся на беразе Бірулевым кожны год, але раён не з багатых, грошы на пленэры збіраюцца з вялікімі цяжкасцямі.

Усцягнуў на ногі гумовыя боты, павесіў на плячо эцюднік ды падаўся за тую частку Ослікаўкі, што за дарогаю, за кузняцоўскую палову. Там — лес. Выйшаў з яго на луг, заліты вадою. З лесу вывела дарога — на лузе хавалася пад ваду. Хацеў пісаць луг у вадзе, з дарогаю, што пад ваду нырала, але з'явілася ахвота дарогаю па вадзе ісці. Я і пайшоў: пад нагамі дарога, а зверху вада. Неглыбокая, праўда, халяў ботаў хапала, каб ад берага прайсці крокаў сотню, а далей, як стала глыбей, спыніўся, каб не набраць вады ў боты, азірнуўся на лес, адкуль прыйшоў, і ўбачыў пейзаж яшчэ цікавейшы: каля ног, на першым плане, вада, і з яе выходзіць дарога, мокрая,кіруе ў лес пад чырванастволыя хваіны ды белыя бярозы на ўзлеску, і той чырвона-белы хваёва-бярозавы план прыгожа адбіваецца ў вадзе, перакулены. Тут я і зняў з пляча

эцюднік. Паставіў у ваду, нагамі намацаў надзейную купіну, прытаптаў яе — і пачаў пісаць. Працаваў гадзіны дзве і так захапіўся, што забыў, дзе стаю і на чым. Неасцярожна павярнуўся і з купіны саслізнуў у яміну. Вада шухнула цераз край халявы ў бот, я з яміны тузануўся назад, [redacted] за спінаю купіна, за яе зачапіўся і пляснуўся задам у ваду — паплылі палітра і пэндзлі. Работа закончылася. Вынес сваю гаспадарку на бераг, павыліваў з ботаў ваду, зняў штаны, куртку, кашулю, павыкручваў, усцягнуў мокрае на сябе і хутчэй у вёску. Але да вёскі не дабег — убіўся ў жоўты лубін, спыніўся, галаву ўзняў і здзівіўся жывапіснаму суседству буйных жоўтых кветак і чырвоных ды бялюткіх ствалоў хваін і бяроз. Усё гэтае полымя ўзлятала на ўзгорак, даючы пейзажу рух да неба, куды імкнулася і мая душа.

Скінуў [redacted] сябе мокрую вопратку, расклаў пад сонцам, каб сохла, а сам узяўся пісаць жоўты лубін, чырвоныя хвоі, белыя бярозы і пярэстую ад ценяў дарог.

Бывае, што адчуваеш такую сілу і прыгажосць натуры, якую перадаць словамі ці фарбамі проста не зможаш. Для гэтага трэба было б пераўзысці самога сябе.

Хочацца, бывае, сябе пераўзысці.

Штодзень ідуць дажджы — вады ўсё болей. На Ослiку аблюбаваў мясціну, дзе вада абышла бераг, з кожным днём падымаецца ўсё вышэй, хоча і яго пад сабою схаваць, заліць, а ён не даецца, з кожным днём быццам падрастае, і калі я іду па вёсцы дарогаю, якая яшчэ вышэй за той высокі бераг, гляджу са свае вышыні на яго, ён нагадвае мне вялізную птушку: галава з дзюбай, два крылы. За апошнія суткі вада яшчэ больш паднялася, бераг ужо выглядае не як паўастравок, а ледзь не востраў, мая птушка адно хвастом яшчэ трымаецца за зямлю, вось-вось адарвецца ад яе і паляціць за Ослік, туды, дзе бліжэй — зялёны, яшчэ не затоплены луг, далей — хваёвы лес, за лесам — неба. Каб там пераседзець залеву?

Я паставіў каля дарогі эцюднік і пішу птушку. Адно крыло чырвонае, другое жаўтлявае, зялёны хвост яшчэ прывязаны да берага, а галава і крылы ўжо над вадою. Стаю і думаю, як быць з гэтакай пярэстасцю, як колеры

прымірыць, а тут падыходзіць Арцём, цікаўны хлопчык, які жыве ў хаце насупраць. Паказвае мне ў жмені вялікага вусатага жука. Жук доўгімі вусамі варушыць — Арцём смяецца: “Сярдзіты!” Пальцам паказыча жуку галоўку — той крылы растапырыць і яшчэ мацней варушыць вусамі.

— Глядзіце, — кажа Арцём. — Калі сядзіць ціха — чорны, а натапырыцца — пад крылцамі ўся вясёлка.

Я гляджу: сапраўды, якіх колераў ды адценняў няма?

— А ты яго на сонца выстаў, на святло.

Арцём паварочвае жука да сонца, але той крылле апусціў, прыціснуў да сябе, вусы звесіў, як нежывы.

— Ты яго пальцам казытні. І яшчэ. Во!..

Жук зноў зайграў вусамі ад асалоды, крылы натапырыў.

Арцём у захапленні:

— У вас і фарбаў гэтакіх няма, каб яго намаляваць.

Я гляджу, удзячны Арцёму, якая дзіўная палітра ў падкрыллі, якая гармонія адценняў, аж бярэ зайздрасць да жука і да Арцёма, які гэтую палітру адкрыў і кожны дзень на яе любуецца.

Пытаюся:

— Ты любіш жукоў?

Ён ажно скача:

— Вельмі люблю. У мяне іх дома поўныя карабочкі.

— А навошта ты іх збіраеш?

— Як навошта? Збяру — выпушчу. Зноў збяру — пагуляю і выпушчу.

Жук ускінуў крылцы і паляцеў. Арцём кінуўся яго лавіць, а я — да сваёй палітры.

Таго жука Арцём не злавіў і ў траве не знайшоў, як ні поўзаў на каленках. Пабег. А неўзабаве з’явіўся — у жмені зноў быў жук, вузенькі і доўгі, нібы трэсачка, з вусамі кароценькімі, якія тырчалі і не варушыліся. Я папрасіў Арцёма, каб ён і гэтага падварушыў. Арцём стараўся, але жук яшчэ мацней сціскаўся ў камячок.

— А вы глядзіце, — сказаў Арцём, кінуўшы казытаць жука, — які ён чорны. І не чорны — сіні. І не сіні — чорны. І не чорны...

Прыгаворваючы бясконца, з жуком у руцэ пабег па вёсцы.

Я стаяў, глядзеў на сваю птушку, што сядзела на зялёным і не зялёным хвасце, а думаў пра хлопчыка, які гэтак зайздросна востра ловіць пераменлівыя адценні колераў нават на крылцах і пад крылцамі ў драбязы — жука.

Цікавыя людзі жывуць у Ослікаўцы.

Калі далёка не ісці ад таго месца, дзе я пішу птушку, на нейкі дзесятак крокаў падняцца берагам вышэй, убачыш хату з ганкам да рэчкі, у якой жыве мужчына маіх гадоў, Мікалай, трымае немалую гаспадарку — дзве дойныя каровы, свіней, курэй, катоў, сабак. Усім яды наварыць, замяшае, усіх накорміць, напоіць, у хаце навядзе парадак і бяжыць штораніцы ў лес па грыбы. Прыносіць адных баравічкоў па сотні, калі меней, калі болей, з імі запрыбярэцца, што — сушыць, што — саліць, што — варыць, а як разагнецца — выйдзе на ганак. Пытаюся: "Навошта аднаму гэтакая гаспадарка?" А ён смяецца: "Трэба галодных карміць". Ён не бабыль, ёсць жонка, дзеці, але жонка жыве і працуе ў Віцебску, дачка ў Мінску, другая дачка ў замежжы, усе зарабляюць. У добрае надвор'е, асабліва ўлетку, у святы ды выхадныя прыязджаюць — тут добра і ўнучку, і гарадскому сабачку. Добра і тым, хто корміць, і тым, хто корміцца. Вёска гораду заўсёды радая, у любое надвор'е.

Вунь і ў Грышы, суседа, нешта падобнае на шлюб паміж горадам і вёскаю, хоць цяжка сказаць, шлюб ад кахання ці вымушаны. Грыша жыве ў Бялынічах, там сям'я, служба ў лясной канторы, а тут дамок, падобны на канторку, хляўчук, карова, бык, кабанчык, куры. Кожны вечар, як сонейка сядзе, Грыша, у канторы адслужыўшы, на веласіпедзе прыязджае ў вёску. Пасля дня працы ў горадзе — вечар працы ў вёсцы, з прыхваткам, бывае, ночы. Карову трэба сустрэць з пашы, падаіць, бычка прывесці, на ноч паставіць у хлеў, даць кабану, сыпнуць курам. А ў горад вяртаецца на двух колах ужо як цёмна са сваімі чыстымі ды свежымі прадуктамі — малачко, смятанка, яечкі, гароднінка. Калі з гаспадаркаю раней управіцца — прыляжа на зялёным узгорку адпачыць, на Ослік з гары падзівіцца. Суседзі збяруцца, пачнецца размова пра жыццё. Бывае, што й пад чарку. Тады размова даўжэйшая. І

я на горку да Грышы завітаю. Ён чалавек прыветны, цікавы, пагаварыць з ім кожны мае ахвоту. І сам не абы-што скажа, і кожнага паслухае, усіх заўважае і разумее, да кожнага чалавека мае свой падыход. За ўсё гэта яго ў вёсцы паважаюць.

Яшчэ цікава тое, што Грыша — яўрэй. Гэта ён мне адразу, як пазнаёміліся ды пагаварылі, сам сказаў. Як я заўважыў, з ахвоты паглядзець, ці здзіўлюся: яўрэй, а трымаецца гаспадаркі ў вёсцы, зямлі, нібыта селянін, у горадзе працуючы.

Ослікаўка — вёска сучасная, цывілізаваная. Калі па ёй пахадзіць, за ёю паназіраць, то заўважыш, што людзі тут руплівыя, гаспадарлівыя, кожны мае свой клопат і свой рэй, як жыць навучаны і на што спадзявацца ведае. На дзяржаву, якая яна ў нас сёння, тут у людзей надзеі мала, яны ўсе бачаць, што працавітага ды сумленнага, калі не начальнік і не злодзей, яна не накорміць, спадзявацца трэба на свае сілы, на агарод, карову, парсюка, калі іх два ці тры — яшчэ лепей, на сваіх курэй ды качак, трэба і грыб з лесу прынесці, і рыбку ў рацэ замуціць — тады будзеш сыты. Гэтак і жывуць — гарадскімі вяскоўцамі ці вясковымі гараджанамі.

Цямнела. Я нёс малако ў слоіку з Ослікаўкі, яшчэ цёплае, з-пад каровы, і па дарозе спыніўся, зачараваны маляўнічым заходам сонца.

За Ослікам, за лугам і за лесам край неба палымнеў чырванню, і той самай чырванню палымнела лукавіна Осліка. Я сышоў з дарогі, падняўся на ўзгорак — краявід расхінуўся яшчэ шырэйшы, чырвонае вока ў рацэ гарэла яшчэ ярчэй. Я падняўся на высокі Грышаў ганак, сеў на ім і доўга не зводзіў вачэй з захаду сонца. Пакрысе неба над лесам чэзла, чырвань дагарала, луг ды рэчка акрыліся сіняй коўдрай, ссінелі-пахаладнелі ваколіцы вёскі, замуціліся берагі хат, постаці дрэў, ссінеў край неба, зліўся з лесам, лес — з лугам, усё наваколле як бы ў адну яміну правалілася, і толькі далёкая лукавіна Осліка ззяла малінавым вокам. Нядоўга, праўда. Быў момант, калі ў ссінелай цемені вока Осліка выбліснула, нібы з апошніх сіл, перш чым пагаснуць, і тое дзіўнае святло засталося ў вачах. Хоць прыгожа было і пасля, калі ў Осліку, у той

самай лукавіне, дзе нядаўна гарэла малінавае вока, загарэлася перламутрава-жаўтлявае вока — поўня. Адна поўня нечакана выкаціла ў неба і стала над Ослікам, а другая ляжала пад ёю на вадзе. Абедзве давалі іншы настрой, як той, што быў ад чырвонага вока. Ад іх ішоў спакой. Ішоў ён яшчэ і ад думкі, што гэтае вока будзе ззяць, можа, усю ноч.

З Грышавага ганка я вярнуўся ў свой, нібыта свой, дом, напіўся сырадою і лёг на канапу пад цёплую коўдру. Святло ў пакоі выключыў. Ляжаў ды глядзеў перад сабою ў акно. У двары ліхтар свяціў ярчэй за вока ў небе, не даваў спаць. Я ўстаў, каб выйсці на ганак і выключыць на шчытку рубільнік, пагасіць ліхтар, але замест гэтага ўключыў святло ў пакоі і на ганак не пайшоў. Узяў са стала кнігу, забраўся зноў пад коўдру і пачаў чытаць прозу мастака Пятрова-Водкіна.

Я неаднойчы думаў, чым мяне прываблівае проза мастакоў, калі чытаў лісты Ван-Гога да брата Тэадора, дзённікі Дэлакруа, апавяданні Канстанціна Каровіна, кнігу жыцця Марка Шагала, "Далёкае блізкае" Рэпіна, уцалелыя ад згубы старонкі прозы Бялыніцкага-Бірулі. Тое думаю цяпер, трымаючы ў руках кнігу Пятрова-Водкіна. Бачу ў мастакоў нешта такое, што далёка не заўсёды знойдзеш у прозе пісьменнікаў, што мне да душы, кладзецца ў мае настроі, адчуванні даверу і радасці. А што яно — "нешта такое?"

Шчырасць і давер, большыя, як у прозе пісьменніка, асабліва сённяшняга, які шмат зрабіў, каб абясцэніць гэтыя выдатныя якасці мастацтва? Магчыма. У прозе мастака амаль няма прыдуманага, больш сябе, сваёй пароды, таго, што з мастаком-аўтарам было, што ён перажыў, ведае. Ён, здаецца, зусім не дбае, пішучы прозу, пра жанр, сюжэт, фабулу, стыль. Якраз тады стыль атрымоўваецца, як пра яго не думаеш, свой адметны, як натуральнае дыханне, як тон у жывапісе — ён або ёсць, або яго няма. Шчырасць — гэта культура творчасці. Мастак, працуючы над палатном, шчыры сам перад сабою, як кажуць, на ўсе застаўкі, а як перад сабою — дык і перад светам, тут ён без берагоў, у той час як для пісьменніка быць шчырым — гэта адчуваць меру шчырасці, мяжу, пераступіць

якую ён не адважваецца. У мастака гэтае боязі няма. Можа, таму, што ён працуе з іншым матэрыялам, не словам — фарбаю, у якой менш рызыкі? Безумоўную шчырасць у жывапісе мастак пераносіць у сваю прозу, бо іншай меры шчырасці проста не ведае, яна ў яго адна заўсёды, як догма. І я высока цаню гэтую якасць Пятрова-Водкіна, калі чытаю гісторыю яго кахання ў Рыме да Анжэлікі, натуршчыцы, якую ён спачатку проста піша як натуру, як яна проста зарабляе, даючы мастаку сябе, аголеную, пісаць. Такая шчырасць мастака — сінонім мужнасці. Ці хіба Ван-Гог хаваецца з прастытуткай Хрысцінай? Я хачу ўявіць у падобнай сітуацыі ды споведзі пісьменніка і не магу. Праўда, мы маем прыклад Набокава. Але Набокаў у сэнсе шчырасці — феномен. Ды і кажу я пра нашага нацыянальнага пісьменніка.

І ўсё ж, магчыма, самая моцная якасць мастака на ўлонні літаратуры ў тым, што ён заўсёды, кожным мазочкам, піша натуру, у кожны рух пэндзля ўкладае дакладнае бачанне мастацкага вобраза. Толькі вобраз, які бачыць, адчувае, дае яму магчымасць узяць у руку пэндзаль. Напачатку павінна бачыць вока, бачыць канкрэтна: формы, лініі, колеры, адценні, кампазіцыю, прастору. Вока ўбачыла — пасобяць думка, пачуццё, інтуіцыя, памяць. Мастак ідзе ад вобраза, пісьменнік — не заўсёды, часта, а можа, і часцей — ад думкі. Мастак ведае, што думка бывае памылковай, хлуслівай, ён больш давярае натуры. І калі піша не пэндзлем — асадкаю, не фарбаю — словам, то слова — мазок, вобраз. Такая проза і ў Бялыніцкага-Бірулі.

“Ціншыня, зрэдку па верхавінні ельніку прабяжыць вецер, скіне з галля снег, і зноў ціха.

Даходзім да пяты, спыняемся. Ягор шэпча:

— Каля гэтай сасны стой, мядзведзь выйдзе на цябе, на штых. Падпусці блізка. Бі ў галаву. Галава ў яго — цурбан.

Я стаў, абтаптаў снег. З абодвух бакоў ад мяне — па сем чалавек у белых балахонах.

Зімародкі папіскваюць. Дзяцел страсянуў сухастоіну. Зноў ціха.

Хвілін праз пятнаццаць чую:

— Пачынай! Пачынай!

Яршы са сваіх месцаў пайшлі ў круг:

— А-ха!.. А-у!.. У-у-у!..

Сякеры і калы заляскаталі па дрэвах. Стрэл! Яшчэ стрэл! Магутны гул каціўся па лесе.

— Трымайце! Трымайце звера! Звер-звяруга пайшоў, хлопцы! У-а-а-а!.. Бах!.. Бах!..

На пяту мядзведзя выйшаў Фомка і гнаў усіх, заводзіў...”

Тут і далей — сустрэча Бірулі з мужыкамі-паляўнічымі, Бірулі з зімовым лесам, Бірулі з мядзведзем, Бірулі з вёскаю — нешматслоўна, дакладна, вобразна. Ні слова, каб выкінуць, ні слова ўтачыць. І дыялог жывы, жывыя твары і галасы. Бо аўтар мастак, бачыць і ведае натуру, ёю зачараваны. І няма пытанняў да аўтара. Нават чытач-праведнік, які хацеў бы асудзіць паляўнічага-мастака за тое, што забіў звера, ды якога — мядзведзя, цара лесу, змоўчыць — яго спыніць лаканічны і даставерны малюнак сустрэчы паляўнічых з вёскаю, якая радуецца, запрашае паляўнічых у хаты частаваць — хопіць мядзведзю беднага мужыка крыўдзіць.

Ці не ў выключным даверы мастака да натуры найпершы сакрэт таго факта, што мастакі далі шмат больш выдатных твораў літаратуры, як пісьменнікі — твораў жывапісу?

І ці не павінна гэта падказаць літаратуры, якія страты яе чакаюць, калі яна згубіць смак да жывой натуры, жывога вобраза, падмяняючы іх абстрактнаю філасофіяй, разважліва-шматмудрай публіцыстыкай?

*Верасень, 2000*

А вось ужо і пяты пленэр у Бялынічах. На гэты раз мастакоў яшчэ меней, хоць ёсць падставы не толькі жартаваць, што пленэр міжнародны, бо з намі Генадзь — мастак з Украіны. Што нас мала — не бяда, далёка не ўсё ў мастацтве вызначае колькасць, а што амаль усе мы тут не першы раз і адзін аднаго добра ведаем — прыемна. У нялёгкіх эканамічных умовах раён зноў сабраў нас на радзіме Бялыніцкага-Бірулі, як збірае кожны год, увесну ці ўвосень, якія любіў пісаць Біруля, і гэта кажа пра тое,

што бялыніцкая зямля шануе свайго вялікага мастака, любіць жывапіс, бачыць у ім сваё духоўнае багацце.

Пленэр адкрылі спачатку неафіцыйна — каля помніка мастаку, нешматлюдна, потым афіцыйна, шматлюдна — у Доме культуры. Гаварылі пра жывапіс і Бялыніцкага-Бірулю, спявалі яго любімыя песні, гучала яго любімая музыка. У мастацкім музеі пабылі на выставе яго светлых пейзажаў. З'ездзілі на Бірулеў бераг Друці ў Крынкі, там паклалі кветкі да мемарыяльнага каменя, які ў дні другога пленэру паставілі на высокай кручы непадалёку ад месца, дзе калісьці стаяў дом маленства будучага мастака. Адтуль паехалі па вёсках, па нівах ды лясах, выглядаючы маляўнічыя краявіды для будучых эцюдаў. За чатыры пленэры, якія адбыліся, мы гэтую зямлю ўжо добра зведалі, адчуваем душою, але і новыя куточкі на ёй кожны раз адкрываем. Прыгажосць у прыродзе бясконцая.

Вёска Дзевашычы доўгая, цягнецца берагам Осліка на вярсту, і як толькі яе ўсю праедзеш, і яе выедзеш, на высокім правым беразе рэчкі ўбачыш курганы — помнікі тысячагадовай гісторыі і культуры нашых продкаў. Пад курганамі попел крывічоў ды радзімічаў, што маліліся паганскім ідалам і багам, на курганах і цяпер чуеш іх дух, куродым старажытных капішчаў ды вогнішчаў.

Дарога паднялася на самую курганную вышыню — там спыніліся, павыходзілі з аўтобуса, пагаманілі і разбрыліся хто куды. Адразу за курганамі лес — шафёр пайшоў па грыбы, сяброў-мастакоў да сябе заманіла вёска, а я не пайшоў далёка, хадзіў ад кургана да кургана, успамінаючы курганныя радкі з Купалавай паэмы і курганную кветку Канстанцыі Буйло, кожны курган аглядаў ды дзівіўся, якія яны адзін на адзін непадобныя, са сваімі травамі, імхамі, з нейкімі метамі — то дзіўным каменем, то хваінкай, крывуляй з крывуляў. Кожны меў свае формы і колер, па-свойму ўпрыгожваў краявід. Самы высокі жаўтлява-вохрысты стаяў у цэнтры, астатнія ён да сябе як бы прыгортваў і красаваўся найперш русым чубам, які прыгожа срабрыўся мяцёлкамі аўсяніцы на фоне кобальтава-сіняга неба. Суседні з ім, меншы, быў накрыты, нібы коўдрай, кучаравым шызым мохам, і з моху, прыўзнімаючы яго на сваіх гарбах, пнуліся вылезці да

сонца валуны. Трэці чырванеў ад пасохлага верасу і дробнай сухой травы. Бліжэй да Осліка старавеччынай дыхаў, нібы з дзядоў дзед, бялява-блакітнаваты, проста сівы ад палыну курган; палын пагойдваўся пад павевамі лёгкага ветрыку — курган, здавалася, варушыўся, як жывы. А яшчэ за дарогаю перад кукурузным полем весела глядзеўся ў карунках папараці курган, які ўверсе быў чырвона-карычневы ад пасохлае папараці, ніжэй — зялянейшы, ■ ўнізе, пад курганом, папараць лапушылася зялёная ды высокая, абсыпаная яшчэ не высахлай срабрыстай расою. Быў курганчык лысы, з пясчанай — ані травіны — макаўкай. Быў на ракавінку падобны скручанымі жвірыста-загрубелымі рубішчамі. Быў адзін ■ глыбокім падкопам, пясчанай ямаю, быццам у ёй бралі пясок, а можа, які-небудзь саматужны археолаг шукаў у ім косткі сваіх прапрадзедаў і промысел спыніў — ці знайшоў тое, што шукаў, ці зняверыўся, што знойдзе. Было шмат курганоў і не было хоць двух падобных. Я нават разгубіўся, за які ўхапіцца, які тут прыгажэйшы. Хацелася ўсе схапіць, але і два было цяжка ўкласці ў адну кампазіцыю, скампанаваць па колеры.

Крумкач пасобіў. Ён доўга моўчкі кружыў над курганамі, прыглядаючыся да мяне, магчыма, а потым над жоўта-вохрыстым павіс і гэтак злосна крумкаў, як усё роўна ў мяне каменнем сыпаў. І я на яго зазлаваў. Паставіў эцюднік перад жоўтым курганом і ўзяўся за работу. Крумкай, хоць разарвіся.

Дзень выдаўся кароткі. Ну, восень — вядома. Але яшчэ і сам сабе яго падкараціў тым, што, прыехаўшы, залішне доўга прыглядаўся да курганоў, шукаючы натхнення ў кожным, у Купалы ды Буйло, у водгуках сваёй крыві. А як інакш: месца незвычайнае — наш мацярык? Толькі, здавалася, пісаць узяўся, у працы не спацеў, а ўжо і назад трэба ехаць. Глянуў на сяброў — лепш не бачыць: Генадзь Будзько пахадзіў па садах, яблыкамі абсыпаў і свае яблынькі, і зямлю пад імі на эцюдзе; Ларыса Журавовіч пачаравала за хатамі над Ослікам, паводкай заліла і лазні, і сады, і нават калёсы — аглоблі глядзелі ў неба, літасці прасілі; Карней Аляксееў сабе не здрадзіў, схапіўшы яшчэ адну панараму з рэчкай; Павел Дзмітрыядзі са сваім двайным грэчаска-беларускім тэмпераментам ажно на

два эцюды замахнуўся. А як быць мне з матывам ненапісаным?

У Бога дзён многа?

І то лягчэй — на Бога трэба спадзявацца.

Тая ноч — лёг і ўстаў. І зноў — Дзевашычы.

Усе з аўтобуса — і па сваіх сцежках. А мае — самыя блізкія, на курганах. Учарашні жаўтлявы, з русым чубам, хай пачакае, як сонейка вышэй падымецца, крумкач прачнецца, прачысціць горла. Цяпер узяўся за чырвоны ды шызы, паставіў адзін за адным, як у натуры, і дарогу разаслаў пад імі. Яшчэ б сюды Ослік, ды палатніна не гумовая, не расцягнеш. Успомніў і параду сябра: не будзь жадзён.

Такое небяспечнае мастацтва — жывапіс. За фарбы ўзяўся — на ўсё забудзеш. Мяне Слава Лазараў папярэджваў: "Наша мастацтва — як смала, прыліпнеш — не адарвешся". І гэта праўда. Вунь Пятро Сцебехаў за фарбамі забыўся, што ў яго ёсць жонка. На судзе яна так і сказала: "Мне трэба мужык, а не мастак". У Слаўкі нешта падобнае. У яго Надзя дужа цярплівая. Надзіва. Гэта — ратунак. Ён мне казаў: "Пішаш словам — за фарбы не бярыся". А я таму і ўзяўся за фарбы, што слова пасля мае слепаты, усіх аперацый, не ішло, не давалася. Хадзіў глухі, як бервяно. Страшна стала. Ад таго страху за фарбы і схапіўся на пленэры. Там за што было хапацца, каб ўратаваць душу? Ва ўсіх — фарбы, усе пішуць, і я — ад страху, што душа канае не працуючы, яшчэ год памаўчыць — і ёй магіла. Вось і схапіўся голымі рукамі за гарачую смалу. А вакол людзі: хто — фарбачкай падзеліцца, хто — пэндзлік адшкадуе, хто — кардонку, палатнінку. І ўліп. І зноў слова не давалася. Але я ўжо ведаў: цяпер — не таму, што душа бервянее, глохне, памірае, памерці ёй ужо не дадуць святло, колер, фарбы, яны яе ратуюць, цяпер ужо фарбы да мяне не падпускаюць слова. А што — слова? Ішло ці не ішло па-ранейшаму? Адчуў — пайшло. Зноў захацелася, бывалі дні, што і дужа, моцна хацелася з ім адным застацца. І ўжо з ім заставаўся. Ужо выйшлі з-пад рукі нейкія старонкі. Адчуў — пойдзе. Сэрца павесялела. Але тут і ўбачыў, што за смала — фарбы. Ад аркуша вочы адарвеш, ускінеш позірк, а перад

табою — свет колераў, нейкі пейзажык. І — бразь асадку на паперу: няма сілы ўседзець. Адскочыць слова, і ты ўжо ўвесь там, дзе светла і прыгожа. Новая бяда? Не, не была бяда. Я ведаў, што іх звяду да міру, ладу, згоды. Ды не магло іначай быць — то ж дзеці адной боскай сілы і праўды. Яны не могуць варагаваць. Але — зноў крумкач? Я схамянуўся: дзе сонца, дзе курган жоўты?

Крумкач горла нада мною раскрыў, нібы трубу вадаправодную, нервуе. Учора крумкаў — адганяў ад кургана, сёння — кліча да жоўтага, чубатага? Ну, добра, чырвоны з шызым могуць адпусціць — іх дома давяду. Але што з сонцам — то ёсць, то няма?

Загледзеўся на неба, як учора на курганы: Божа, якая там паэма! Неба кобальтава-сіняе, як вясною, у маі, а хмары — прорва непагоды, нібы перад скончэннем ці абнаўленнем свету. Далёка за Ослікам воблакі па сінізне чыстыя, светлыя, плылі адтуль раўнюткімі чародамі, быццам іх там для парада выстройваў сам-самы камандзір, адтуль пускаў — плывіце, а яны, да Осліка даплыўшы, мяняліся і норавам, і формамі, і колерам, збіваліся ў вялізныя гурты, цяжкія, пукатыя, нібы пачварныя каровы ці быкі, ледзь не садзіліся на курганы, ужо не светлыя, як за Ослікам, ссінелыя, ззелянелыя, пажоўклыя, фіялетавыя, усім падобныя на курганы, усё роўна як курганамі ў небе і былі ці іх, кургганоў, адбіткамі ў люстры неба. Тут як было не падумаць, што паміж гэтымі, на зямлі, і тымі, што ў небе, ёсць сувязь, таямніца, змова. І калі гэта так, то, можа, пісаць усё гэтае курганне разам — зямлю і неба? І тады, можа, сюды ж — Ослік, яго ссінелую дугу паміж зямлёй і небам, паміж курганнем тым, высокім, і гэтым, дзе я стаяў? Тады ўсё будзе па Бялыніцкім-Бірулю: зямля, вада, неба — свет адзіны і непадзельны.

Думкі бянтэжылі, знясільвалі, плылі ўва мне, што тыя курганы ў небе.

І зноў на курганы садзіўся вечар. Шарэла.

Зноў развярнуўся наш аўтобус.

О, не! Так хутка, адчуўшы штосьці новае і неабходнае ў тым, што бачыў перад сабою, пакінуць курганне, курганнае неба, курганны Ослік, ехаць адсюль?..

Я зрабіў тое, што не зрабіў учора — застаўся на курганах.

Цямнела. Халадала. Дыхнула сіверам з-за Осліка. Я падаўся ў вёску шукаць начлег.

Знайсці адразу хату, якая прытуліла б, было няпроста. На першай за курганамі вісеў замок. Мне яна спадабалася, што каля курганоў, і я сеў на лаўку, чакаў гаспадароў. У двары брахаў сабака — даваў надзею, што нехта прыйдзе, але доўга нікога не было, і я падаўся далей у вёску. Прайшоў хат пяць — то наехалі гарадскія, то ў хатах ніхто не жыў, пустыя, то, мажа, не жадалі пускаць незнаёмага чалавека. Падышоў да жоўтай, пад фарбу, з ганкам, матацыклам каля ганка — малады мужчына стаяў, курыў. Я паздароўкаўся, сказаў, што шукаю. Ён паглядзеў на мяне: "Дык заходзьце — заначуеце". І я зайшоў.

У хаце быў прыцемак. Каля грубкі, пры адчыненых дзверцах, сядзеў пажылы мужчына з качарэжкаю ў руках, задумліва глядзеў у агонь. Ён падняў галаў, зірнуў на мяне і пачаў падварушваць качарэжкаю дровы ў грубцы. Малады мужчына, які зайшоў са мною ў хату, уключыў святло, і я ўбачыў збоку пажылую жанчыну з чыгуном у руках. Яна паставіла чыгун на стол, зняла з яго накрыўку — запаравала гарачая бульба. Я апусціў каля парога на падлогу эцюднік, рукзак, спакаваныя падрамнікі ды кардонкі, шапку ды куртку павесіў на цвік у сцяне. Сям'я якраз збіралася да стала, і мне было няёмка, што завітаў пад вячэру, тым больш што пуста ў рукзаку, харч, які браў, за дзень змалоў. Але, як толькі запрасілі за стол, я ўспомніў пра пляшку гарэлкі ў рукзаку, і на сэрцы адразу палягчэла. Акрамя гаспадара ды гаспадыні за сталом сядзелі іх два дарослыя, гадоў па трыццаць, сыны і сябра, які прыехаў з горада на рыбалку. Мужчыны былі не з гаваркіх, а жанчына ўсё кіхікала-кашляла, нібы хворая авечка, калі ж якое слова і ўстаўляла, то сілы яго вымавіць не хапала, ледзь сіпела, і пачуць яе было немагчыма. Яна не піла, не ела, і ніхто на яе ўвагі не звяртаў, акрамя мяне. Я пацікавіўся, як гэтак моцна прастудзілася, але яна заткнула рот бульбінаю і змоўчала.

Пасля другой чаркі хлопец, які прывёў мяне ў хату, убачыўшы, што я са спачуваннем пагладаю на старую, ляснуў аб стол лыжкаю і вызверыўся на бацьку:

— А ты, стары, скажы чалавеку, што за хвароба ў маткі.

Як ты яе знявечыў, пахваліся. Два рабры паламаў, лёгкія парваў — вось і чахне. Нясі, мама, дакумент.

Старая прынесла паперчыну. Там быў дыягназ: разрыў правага лёгкага і пералом двух рабрын. Я спытаў, чаму яна не ў бальніцы, як лечыцца. Аказалася — ніяк. Яе праверылі ў абласной бальніцы, далі накіраванне ў раённую клініку, цяпер туды трэба, там выпішуць лячэнне, але прайшло ўжо два месяцы — сядзіць дома, ніхто яе не вязе, [redacted] сама — не дойдзе. У хаце, як я ўбачыў, і думкі не было, што трэба везці. Няма на чым? Але ж у двары свая машына, свой конь, свой матацыкл. Паглядзеў я на мужчын з агідаю, і ўжо ні чарка, ні бульбіна ў горла не пайшлі. Устаў з-за стала ды выйшаў на ганак.

Неба было яснае, сушыў марозік. Думкі былі пра жыццё ў чужой хаце. Што за мужыкі — звяры? Скалечылі адзіную ў хаце гаспадыню, жонку, матку і кінулі — памірай. Дзікія людзі.

Да мяне выйшаў гарадскі госць, сказаў, што ў хаце пасланы ложак. Як быць? Ісці ад іх? Куды і да каго? Спытаў, ці ёсць дзе спаць астатнім, можа, каго зганяю з ложка? Ён засмяяўся:

— Мы пойдзем да дзевак.

— А як вернецеся?

— Тады ўжо сонца не дасць спаць.

Ложак быў засланы чыстым. Падушка была мяккая, коўдра цёплая. Я распрануўся і лёг. І з цяжкімі думкамі доўга не качаўся — заснуў. Стаміўся за дзень.

Прачнуўся рана, яшчэ было цёмна. Апрануўся. Куды ў цемень ісці? Сядзеў на ложку. Пачало світаць. Пачуў, як затахкаў матацыкл. Выйшаў з хаты на ганак. Матацыкл заглушыў сын гаспадыні, які прывёў у хату.

— Ужо некуды з'ездзілі? — спытаў я.

— Ад дзевак.

За хатамі святлеў далягляд.

Я вынес на ганак свае рэчы, узяў на плячо эцюднік, на другое павесіў рукзак.

— А можа, пахмелімся? Ёсць пляшка,— прапанаваў малады гаспадар хаты.

Я падзякаваў і адмовіўся. Выйшаў на вуліцу, але спыніўся, агледзеўся. Было адчуванне, быццам нешта тут ці не сказаў, ці не зрабіў, ці згубіў. Спытаў у хлопца:

— Вы з братам чаго не жэніцеся? Выбіраеце?
Ён усміхнуўся:
— Яшчэ не нагуляліся.
Пачуўся кашаль старой — яна ўжо ляскатала каструлямі ці вёдрамі на верандзе.
— Ты адвязі маці ў клініку. Трэба лячыць. Гэта ж — маці. Яна ў цябе адна. Другой не будзе. Чуеш?
Ён адказаў не адразу, падумаўшы:
— Трэба адвезці. Адвязу.
Тады я пайшоў.
Дарога за вёскаю падымалася між хвояў на курганы — тут і хата стаяла, ад вёскі асобна, як хутар, у якой мне ўчора хацелася заначаваць. Мужчына касіў белы ад прымаразку мурог.
— Каса марозу не баіцца? — спытаў я, падышоўшы.
Ён касу спыніў, уважліва паглядзеў мне ў твар.
— Гэта яшчэ не мароз. Раса. А вы?..
Хацеў, можа, спытаць, хто буду, ды змоўчаў, ці здагадаўшыся, ці палічыўшы нядобрым пытацца. Я сказаў, хто ды адкуль, што тут, на курганах, шукаю трэці дзень, тады ён мне расказаў пра харaство, якое было яшчэ да вайны, калі па курганах стаялі таўшчэзныя дубы, на кожным — дуб, як вартавы, а калі вёска ў вайну згарэла і людзі будаваліся, дубы валілі на штандары, падваліны, пакідалі адны пні, якія за пяцьдзесят гадоў з гакам высыпаліся з зямлі, а што і рыбакі спалілі.
Наваколле было скрозь залітае белай смугою, зацярушанае першым зазімкам. Край неба за Ослікам залаціўся, ружовеў, ад яго залаціліся вярхі далёкіх дрэў і кустоў, цяплейшыя плямы ляжалі па срэбры Осліка, плылі, разам са срэбрам, па вадзе, пунсавеў чуб самага блізкага і вялікага куста на тым беразе, на кручы, таксама белага, на ўсю шырыню Осліка адбіваўся ў вадзе, і адбітак з кожнае хвілінай ярчэў, цяплеў; на цёплы тон усюды, у рацэ і ў небе, прачынаўся блакіт, прабіваючыся праз срэбра, які ў гэтай настылай раніцы здаваўся таксама цёплым, а срэбра ўсюды пакрысе таяла. Я стаяў пад жоўтым курганом, цяпер, як усё навокал, бялявым, глядзеў на ўсход за Ослік, чакаючы сонейка, як яно разгарыцца, а думкі былі пра тыя дубы, якіх бачыць ужо не мог, пра курганы пад дубамі, якія мог адно ўявіць. І ўсё ж — бачыў. На кожным

кургане — дуб. Гадоў трыста ці болей — кожнаму. Крона каля кроны — другое неба над курганамі. Цяплейшае, як тое, высокае. Цяпер, увосень, — залатое. Бачыў, які асілак-дуб стаяў над жоўта-залацістым волатам, дзе месца дубу было на кургане чырвоным, якая б гэта была гармонія колераў — чырвонае золата зверху і ўнізе, і як бы здарава глядзелася пад дубамі папараць, хоць чырвона-вохрыстая, хоць зялёна-кобальтавая, ці верас пад асеннім дубам, ці нават сіва-палыновы курган, нават курганчык-ракавінка як утульна адчуў бы сябе пад дубам, ці той, голы, з пясчанай лысінай — як бы прыгрэлася на лысіне дубовая лісціна. Але гэта ж — цэлая дуброва на курганах! Хіба яе ўбачыш-адчуеш, яе красу ды сілу, стоячы тут, дзе стаю, у цэнтры курганнага могільніка? Я пайшоў у бок вёскі. Адышоўшы, спыніўся, паглядзеў назад, адным позіркам акінуў усе курганы разам з дубамі — дых заняло: такая веліч! Ах, Вітольд Каятанавіч! Вы хораша даводзілі ў сваім лісце Антону Бархаткову, што такое сапраўдная жывапісная карціна, колькі чаго ў ёй павінна быць, колькі душы, любові, пачуцця! Як я шкадую, што вы не заглянулі сюды, у гэты куточак свае радзімы, якую так любілі, на Ослік у Дзевашычы, на крывіцка-радзімецкія курганы пад шмат разоў стогадовымі дубамі — як бы вы тады адчулі радзіму не толькі ў кантэксце жывапісу, але і ў кантэксце тысячагадовай гісторыі зямлі, вады і неба. Ах і ах, Вітольд Каятанавіч!..

Тут я заўважыў, што стаю каля вялізнага замшэлага валуна. Ён таксама меў не меней за тысячу гадоў. На яго можна было прысесці. Я сеў. Ён быў халодны. Я зняў з галавы берэт, падаслаў пад сябе і тады пачуў:

— Кхэ-кхэ-кхэ...

На курганах? У дубах? Але няма нікога. Быў голас? Не, проста гук нямоглы. Той самы, з якім жанчына слала мне чыстую і цёплую пасцель. Божа! Як усё злілося, змяшалася ў адно і на зямлі, і ў небе. Усё — адзін агульны лёс.

Лёс Айчыны?

Над курганамі крумкаў крумкач.

*16 сакавіка, 2001*

Электрычка імчыць на Мінск.

У вагоне тры чалавекі сядзяць уроссып, хто дзе, пазвешвалі галовы — спяць. Я іх не заўважаю, я тут адзін — у прасторы доўгага вагона. Шэраг вялікіх акон глядзіць у свет, што праносіцца ад мяне справа, і столькі ж акон — у свет злева. А ў вокнах — там і там — вясна.

Дзень цёплы, сонечны, хоць па календары вясне ўсяго два тыдні. Зіма неяк адразу вушы апусціла, зямлю нават па начах не трымае ў сваіх кіпцях, вясна разгулялася, баль правіць дзень і ноч. Снег сплыў з палёў за які тыдзень, зямля паруе, хоць яшчэ рабая, нібыта футра на чорна-белых цялушках. Сонца праз вокны выпалясквае з вагона апошні зімовы дух, да твару лашчыцца, як хатні кот да рук.

Імчыць вагон, вясною раскалыханы, з вясною, у вясну — вясна ўсюды і ва ўсім. Такая асалода адчуць яе не толькі скурай, проста бачыць,назіраць за ёю, як яна ззяе ў кожнае праталіне, галінцы, былінцы, у кожным дрэўцы, зямлі грудочку, каменьчыку. Куды вокам ні кінь — вясна. У падлеску снег ляжыць, але блакітны цень ад кожнае галінкі — вясны аўтограф. Дзе які лапік снегу — яе там роспіс. Які ставок вады — яе ўсмешка. Бягуць за вокнамі бярозы, асіны, вольхі — з неба на зямлю рачулкі святла, цеплыні.

Галіны дрэў — іх ручаі, прытокі. Загрукатала пад вагонам рэха моста — Дняпро: жывы, распрануты ад вопратак зімовых — ашмёткі-крыгі дзе-нідзе плывуць. Але які дваісты: у вокнах злева — сама святлынь, вада і крыгі залацяцца, цёпленькія, а справа — ультрамарынава-сіні, халодны. Якое неба — гэтакі Дняпро? Так, у неба — два твары. Злева ад вагона — пейзажык з сонейкам пад воблачнай кашуляй, прамень з-за воблака мне б'е ў вочы, плавіць і золата, і срэбра дня, а справа — святло, адбітае ад улоння, ад усяго, што там ёсць, такое мяккае, ашчаднае да кожнай фарбачкі пейзажу, не топіць фарбы ні ў золаце, ні ў срэбры. Вось майстэрня для жывапісца — вагон на колах з вокнамі ў два бакі зямной прасторы, вясны, па сонцы і насупраць сонца. Сяджу на лаўцы ды галавою вертухаю, гляджу то ў адзін бок, то ў другі, параўноўваю

два краявіды адзін з адным, а яны ўсё новыя ды новыя — імчыць майстэрня. Снег на палетках злева блішчыць і залаціцца, слепіць вочы, а справа — сіні, гэты тон трымае, спакойны. Бярозы злева ў сонечным пажары цямнейшыя за снег, ссінелыя, як падгарэлыя, стаяць, а справа — за снег святлейшыя, бялюткія. Нават паветра: злева мгліцца, змывае ў паводцы святла ўсе малюнкі, контуры, усю драбнату, а справа — лагоднае, мяккае, ашчаднае да кожнай рысачкі пейзажаў. Ідзе гульня зямнога і нябеснага, вялікае вясновае рысталішча пад поўнае ўладай сонца, яно тут — сам Бог. Глядзі, назірай, а што заўважыў — запомні.

Сяджу ды назіраю. І думаю: калі б гэтая мастацкая майстэрня не была на колах ды не імчала некуды ў прастору, стаяла на адным месцы, напэўна, стаміўся б колькі гадзін бясконца пяліць у вокны вочы — тады б і я заснуў. Але вагон, мая майстэрня, бяжыць у вясну, вясна бяжыць насустрач, лагодзіць твар, вочы, сэрца, будзіць думкі, надзеі на непадманнае святло...

Не, я не магу ў гэтакі час спаць.

А яны? Спяць — лыка не дзяруць на лапці. Яны, можа, са мной не едуць? Яны — прыехалі?

А я — еду. Мае колы ўсё яшчэ круцяцца.

Здорава ехаць з вясною ў адным вагоне.